
Тэатр пра Бежанства → 3





# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 29 (3088) Год LX | Беласток, 19 ліпеня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Юбіляр Міхась Хмялеўскі (сядзіць) і Яго госці. Злева: Віктар Швед, Станіслаў Лапуць, Антаніна Боўблей, Галіна Трахімчык, Ян Сычэўскі, Міраслава Лаўранюк (дачка Юбіляра) і Вера Валкавыцкая

**Дарагому**
**Міхасю Хмялеўскаму**
**У Дзевяностую гадавіну**
**З Дня нараджэння**

*Мы, Міхаська, аднагодкі,*
*Нам ужо па дзевяноста.*
*Хочацца нам жыць усё-ткі,*
*Хоць жывецца ўжо няпроста.*

*Хоць ужо штодзённа мучаць*
*Нас усякія хваробы,*
*Хоць нас ловіць боль пякучы —*
*Мы цярплівыя асобы.*

*Трэба толькі нам здароўя,*
*Са здароўем мы багаты,*
*Са здароўем мы гатовы*
*Нат дажыць да круглай даты.*

*За здароўе пажаданні*
*Мы прымаем у падарку.*
*Дарагія Грамадзяне:*
*За здароўе вып'ем чарку!*

**Віктар ШВЕД**

Беласток, 26 чэрвеня 2015 года

# Чалавек сардэчны. Міхасю Хмялеўскаму — 90

**Вялікая маладая Міхасёва сям'я і некалькі асоб нас — старых «ніўскіх» Яго сяброў, усе мы заселі за стол Юбіляра з нагоды Яго 90-х пражытых гадоў.**

**Былі выступленні і пажаданні. Віктар Швед прачытаў верш, прысвечаны Міхасю, Стасік Лапуць — калега з дзяцінства, таксама верш і ўспаміны аб даўніх часах — невясёлых і нялёгкіх.**

Янка Сычэўскі — многагадовы старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы на прыгожай беларускай мове гаварыў пра творчасць і грамадскую дзейнасць Юбіляра.

Ну, не абышлося і без ніжэйпадпісанай. Успомніла я жывую хвіліну, што стаць перад вачыма: 1 лютага 1956 года. Я ўжо як працаўнік «Нівы» прыходжу ў рэдакцыю (тады па вуліцы Кілінскага, у г. зв. «окронгляку»). Нясмелая, вядома. Але тут, у супольным вялікім «кабінеце» ёсць ужо Міхась. Ён падыходзіць — хваліць, расхвальвае... Быў чалавечны.

Але пра Міхася ад іншага пачну.

Нарадзіўся ў вёсцы Востраў-Паўднёвы на Сакольшчыне. Хлопчыкам шэсць гадоў пасвіў кароў. А ў палове 40-х гадоў (пасля заканчэння вайны) закончыў руска-беларускую гімназію ў Беластоку («Ніва» ў свой час пісала пра яе), двухгадовыя падрыхтоўчыя курсы ў Варшаве і выехаў у Ленінград, паступіў там на факультэт журналістыкі Ленінградскага ўніверсітэта.

Праз пяць гадоў вярнуўся з дыпломам


Старшыня Рэвізійнай камісіі ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі прамаўляе на VIII З'ездзе БГКТ, 1976 год

магістра журналістыкі. Пасля кароткіх перыядаў працы ў Любліне і Варшаве (у газетах) пацягнула на Беласточчыну. Атрымаў пасаду ў «Беластоцкай газеце» (цяпер «Вспулчэсна»).

Аднак, калі на пачатку 1956 года галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі ствараў і арганізаваў «Ніву» і шукаў адпаведных людзей для новага беларускага тыднёвіка, Міхась пакідае добра платную пасаду і ідзе ў «родную» газету.

У «Ніве» ўвесь час быў першым верным памочнікам шэфа. «Пасыльным», калі трэба было (а трэба было часта стаяць за справядлівае рашэнне спраў, супраць паклёпаў і хлусні).

Журналістам быў уражлівым але смелым.

Непаседа. Хадзіў пехатой (бо і так бывала на доўгім пачатку), ехаў веласіпедам. Людзі гуртаваліся вакол яго, а ён збіраў матэрыял, заахвочваў выпісваць і чытаць «Ніву», як сваю газету. Усюды і заўсёды цешыліся з прыезду Міхася, бо ўмеў ён з людзьмі гаварыць (часта даводзілася ехаць «у тэрэн» разам, то ведаю). Былі такія сітуацыі, што «Ніва» была найбольш папулярнай газетай на данай тэрыторыі ці мела найбольш падпісчыкаў. Вядома, не любілі такіх з'яў асабліва ўлады...

Быў М. Х. (бо так часта падпісваўся) нястомным грамадскім дзеячам — шматгадовым старшынёй БГКТ, арганізатарам грамадска-культурных мерапрыемстваў, фэстынаў, выступаў з дакладамі.

У 1988 годзе адышоў на пенсію. Выдаў пяць кніжак (дзве па-польску) нарысаў, якія публікаваліся ў «Ніве» пад агульным загалоўкам «І так бывала». Гэта цікавыя дакументальна-літаратурныя кароткія замалёўкі аб чалавечым лёсе.

Са здароўем? Цяпер — вядома...
Але ж не паддаецца. Як і даўней. Калі, бывала, штосьці не выходзіла, паяўляўся Міхась: «Раскажу вам добры анекдот!..» І паяўляўся гумар. Ён і цяпер радасны і поўны энергіі.

Дзве яго і мае сяброўкі, Янінка і Нінка, не змаглі быць на прыёме. Але праз мяне перасказалі пажаданне: 100 год і яшчэ!

Але я хачу закончыць сваю кароткую даведку пра Сябра ясенінскім радком: „Все мы, все мы в этом мире тленны»...

**Вера ВАЛКАВЫЦКАЯ**





# Працэс

Ну вось і дачакаліся. Яшчэ раз дачакаліся. Як спяваў вялікі класік Уладзімір Высоцкі: „Эх раз, ды яшчэ раз, ды яшчэ многа-многа раз...”

У Беларусі пачаўся чарговы выбарчы працэс. Працэс. Хіба што гэтае слова найбольш падыходзіць да маючых адбыцца падзей. Гэта сапраўды працэс не толькі падобны да судовага, але ў пэўным сэнсе і ёсць судовым. І судзіць, як мінімум, будзе кожны сам сябе. (Пра „як максімум” лепш пакуль не разважаць). Бо менавіта тут мноства людзей чарговы раз паўстануць перад выбарам паміж удзельнічаць ці не, калі ўдзельнічаць, то ў чым, у якой ступені, на чыім баку, з кім і супраць чаго, супраць каго і за што... У беларускіх рэаліях, калі краіне чарговы раз пагражае страта незалежнасці, і гэта напрамую можа быць звязанае з прызнаннем або непрызнаннем выбарчага працэсу, выбар і адказны, і складаны.

Ну а пасля, як выбары закончацца, многія пачнуць сведчыць... Кожны сваё. Хто праўду, хто сваю праўду, а хто і відавочную хлусню... Чым не працэс?

А калі сказаць прасцей, то выбар заўсёды адзін — паміж дабром і злом, ці калі пастарацца змякчыць ажно такое жорсткае паняцце адказнасці ўсіх разам і кожнага паасобку ў нібыта самай звычайнай справе, такой як усяго толькі выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, то хай гэта будзе адказнасць паміж асабістым разуменнем дабра і зла кожным індывідам персанальна.

Але як не гуляй словамі, выснова простая. Чалавек нясе адказнасць за свае дзеянні. Адказнасць перад нашчадкамі і продкамі, перад блізкімі і знаёмымі, перад самім сабой, зрэшты... Адказнасць маральную, гістарычную, судовую... Якая з гэтых відаў адказнасці дагоніць чалавека яшчэ пры жыцці, прадбачыць складана. Але ж нейкая з іх можа і дагнаць яго яшчэ жывым, як бы чалавек не спадзяваўся, што ўсё пранясе, што ўсё абыдзецца... А можа і не пранесці. Ад самога працэсу то не пранесла... Працэс то пайшоў!

І зноў мноства людзей пойдуць па добрай волі ці па нядобрай неабходнасці ўдзельнічаць у працэсе ў розных якасцях: ад удзельнікаў у змаганні за галоўную пасаду краіны, да тых, хто будзе лічыць галасы выбарцаў, або будзе рабіць выгляд, што лічыць галасы, да тых, хто будзе назіраць, каб не было парушэнняў, або будзе рабіць выгляд, што назірае, каб потым задэкларававаць, што парушэнняў не было... Яшчэ будуць і проста тыя, хто ўсяго толькі пойдзе, або ўсяго толькі не пойдзе галасаваць. Але і тут выбар.

Бо мы ў Беларусі. У адной з паслясавецкіх рэспублік, якая так і не здолела да канца вырвацца з кіпцюроў СССР. Таму і выбарчы працэс у нас нечым падобны да выбарчага працэсу ў Савецкім Саюзе. Прынамсі тым, што вынік выбараў вядомы задоўга да іх пачатку. Менавіта таму ў словазлучэнні „выбарчы працэс” ключавым становіцца слова „працэс”, а не слова „выбарчы”, як у большасці іншых еўрапейскіх краін. Менавіта таму і ўзнікае паняцце персанальнай адказнасці непасрэдна за свае дзеянні ў гэтым канкрэтным працэсе.

Такое нават смешна пачуць выбарцу з іншай краіны, дзе ключавым словам у словазлучэнні „выбарчы працэс” з'яўляецца менавіта слова „выбарчы”. Але мы жывем у нашых рэаліях, і ў нас іншае ключавое слова.

Гэта ў выбарах перамагае большасць, а меншасць падпарадкоўваецца і рыхтуецца стаць большасцю на наступных выбарах. Гэта ў выбарах не бывае памылак і не памылак, а ёсць толькі такі або гэтакі выбар. Выбар, які задаволіў ці не задаволіў цяпер, або ў будучым, але выбар, які можа ў разе чаго змяніць наступны раз.

У працэсе ж усё наадварот. Там усё сур'ёзна. Там кожны мае сваю ролю. Нават той, хто пра гэта не падазрае. І кожны мусіць адгуляць яе як акцёр на сцэне. Бо гэта толькі выбары робяцца для народа. А працэс робіцца для вонкавых гледачоў. Працэс мае добра падрыхтаваны і апрабаваны сцэнарый, які не дапускае аніякага збою. Бо працэс паказны.

Усе дзеючыя асобы ў гэтым працэсе даўно вядомыя. Вынікі таксама. Усё мусіць ісці па сцэнарыі. Але калі знаходзіцца хоць адзін з удзельнікаў працэсу, які ідзе не па зацверджаным сцэнарыі, то тады разбураецца не толькі сцэнарый, але і сам працэс. Тады пачынаюцца выбары.

Віктар САЗОНАЎ

# Вось жанчына!



Буду наракаць — дрэнна робіцца з намі... мужчынамі. Становімся жанчынападобнымі. Але я далёка аб бабскага лямanту і заломвання рук. Па-першае, таму, што можа гэта не мужыкі бабеюць, толькі жанчыны становяцца больш мужнымі. Важнае пытанне, чаму гэта адбываецца, я пакіну адкрытым. Нават калі толькі таму, што мне не хапае пазнавальных інструментаў. І, шчыра кажучы, мне не хочацца гэта даследаваць. Іншая справа, што мужыкам, як правіла, штораз менш хочацца — і вучыцца, і працаваць. І дбаць аб нашчадства, і нават ваяваць. У Польшчы, напрыклад, доля жанчын, якія штудзіруюць або маюць вышэйшую адукацыю, ужо значна вышэйшая, чым у мужчын. Падобныя прапорцыі, акрамя буйных агламерацый, датычаць таксама беспрацоўных. На ўзроўні паветаў і гмін розніца з указаннем на беспрацоўных мужчын яшчэ больш рэзкая. У агульнай складанасці, жанчынкі хутчэй знаходзяць сабе нейкую працу, чым няхуткія мужыкі абы-якую. Быццам бы тая дыспрапорцыя вынікае з мужчынскай ды і зусім недурной логікі, паводле якой лепш штосьці падумаць, чым зрабіць гэта абы-як, але ў выніку гэтага жанчыны бяруць сабе ўладу. Найперш у сям'і. Затым, на больш высокіх узроўнях улады. Прэм'ер-міністр Копач — выпадак не адзіны. Прасцей кажучы, маем справу з канцом мужчынскай і пачаткам жаночай гегемоніі. Таму што нават вельмі мужчынская сфера — войска — моцна фемінізавалася. Неўзабаве мы ўбачым армейскіх генералаў у спадніцах. Пра паліцыю ўжо не згадваю. Божа мой, але ці жанчыне прыстойна хадзіць з палкай? Гэты напор жаноцкасці на мужчынскасць, у свою чаргу, адлюстроўваецца на працягу роду. Я не павінен заглядваць у чыйсьці ложак, але не думаю, што там, дзе ляжаць бок аб бок змужнелая жанчына і жаноцкі мужык, прывядзе гэта да эфектыўнага працягу роду. У лепшым выпадку да скандалу за тое, хто з іх павінен спаць ля сцяны. Я бачыў, дарэчы, гасцюючы час ад часу ў дамах маіх знаёмых сужонстваў, што на сценах каля ложкаў у большасці адбіваецца пот у мужчынскай форме. І аб чым тут гаварыць?

Нарэшце, ёсць і па-другое... Я не лямантую і не ламлю рук, што жалюгоднае абабенне мужыкоў нераўнамерна размяркоўваецца ў сучасным свеце. Я апускаю тут ультракансерватыўны іслам з яго фалічнымі мінарэтамі, дзе мужчынскі шавінізм не даруе ні на крышку жанчынам. Дарэчы, хто ведае, наколькі яго радыкалізаваная эманацыя, якая выступае пад назвай Ісламскай дзяржавы, не з'яўляецца праявай рэлігійнага экстрэмізму, а наколькі тэстастэронавай нянавісці да абабелага Захаду. Усялякіх канцэпцый па дадзенай тэме ўжо стварылі шмат. Фактычна, што гэтая частка сучаснага свету, якая ідэнтыфікуецца праз спадчынныя і хрысціянскія каштоўнасці, не можа супрацівіцца абсалютнай, самцовай сіле ісламскага фундаменталізму. Ярка нагадвае гэта нярэдкі ў любым культурным коле малюнак, калі жорсткі муж кулакамі збівае безабаронную жонку. Толькі што гэтае параўнанне невідавочнае ў адносінах да прагрэсуючай жорсткасці ў сучасным свеце. Не паспрыяла ёй ані шырокае распаўсюджванне абабення сярод мужчын, ані змужненне жанчын. Але праўда ў тым, што спантаннае скрыжаванне мужчынскай і жаноцкай ідэнтычнасці ў абодвух палоў хутка паскараецца. Не без прычыны ў той жа час жанчыны заваявалі для сябе г.зв. гендэрны парытэт, то-бок, правамоцную роўнасць у доступе да палітыкі, бізнесу і культуры, а гендэрныя спекуляцыі на тэму культурна набытых, а не полава абумоўленых адрозненняў паміж мужчынамі і жанчынамі — узмацніліся. На гэта яшчэ накладваецца прагрэсавальная секулярызацыя грамадства, якая аслабляе патэрналізм і іерархізацыю, якія ляжаць у аснове панавання мужчын у хрысціянскім культурным крузе. Каму яшчэ дзіўна, што праваслаўная і каталіцкая цэрквы ставяцца з моцнымі агаворкамі да ваяўнічага фемінізму. І не інакш да гендэру!?.

Аказваецца, аднак, што нават у бабеючай Еўропе захаваліся анклавы мужчынскага духу. У Беларусі, напрыклад, прэзідэнтам краіны можа быць толькі мужчына. Гэтак мяркуе старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь. На яе думку, жанчына можа займацца адукацыяй ці культурай, а не ўсёй дзяржавай. Такім чынам жанчына, па яе словах, павінна ведаць сваё месца. Эх, вось табе жанчына!

Міраслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца



# Падляшша на „ЭКСПА” (зноў)

Найбольшая Сусветная выстава „ЭКСПА-2015”, што працягваецца ў Мілане, у гэтым годзе адбываецца ад пачатку мая пад лозунгам «Харчаванне планеты — энергія для жыцця». Будзе доўжыцца да кастрычніка. Прымае ў ёй удзел 147 краін, а ў рамках нацыянальных павільёнаў таксама прадстаўляюцца іх паасобныя рэгіёны. Гэта магчымасць — як кажуць суарганізатары з польскага боку, у тым ліку Польскае агенцтва па развіцці прадпрымальніцтва — зводзіцца ў асноўным да «абмену вопытам, які тычыцца бяспекі і якасці харчовых прадуктаў, і выкарыстоўваных у сельскай гаспадарцы тэхналогій». Дадаюць: «Вобраз Польшчы прадстаўлены ў ходзе мерапрыемства асноўваецца на прэзентацыі яе ў якасці сучаснай краіны, якая дасягае эканамічнага поспеху, і прывабнага бізнес-партнёра». Падчас „ЭКСПА-2015” запланавана два тыпы падзей: першы — звернуты да шырокай аўдыторыі, другі — на імя запрошаных экспертаў. Мерапрыемства суправаджаецца культурнымі мерапрыемствамі. Інтэр'ер польскага павільёна схаваны за простай, ажурнай канструкцыяй, якая нагадвае драўляныя скрыні з-пад яблыкаў. Унутры наведвальнікі знаёмяцца з багатай прэзентацыяй дапоўненай мультымедыйнай формай пераказу.

Падляшша мела магчымасць прадставіць сябе на выставе ўжо ў маі ў ходзе „Тыдня Усходняй Польшчы” і „Тыдня польскага турызму”. Між тым, 8 ліпеня ў час прэс-канферэнцыі ў Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства ў Беластоку маршалак Мечыслаў Башко адзначыў: «Мы — адзіны рэгіён у Польшчы, які атрымаў бясплатна дадатковы тыдзень на прадстаўленне сябе на выставе ў Мілане. Наш удзел у „Тыдні Усходняй Польшчы” і „Тыдні польскага турызму” быў заўважаны і ацэнены. Мы дабіліся вялікага поспеху. Запрапанавалі нам „Падляшскі тыдзень”».

Магдалена Лыжніцкая-Санчанка, дырэктар дэпартамента супрацоўніцтва з замежжам і прамоцыі адзначыла: «У маі польскі павільён наведвалі кожны дзень 5-6 тысяч чалавек. Нашы падляшскія прэзентацыі былі сярод самых папулярных, так што мы не паспявалі з тэхнічнымі перапынкамі. Таксама камісар польскага павільёна даў нам высокую ацэнку. На гэты раз — у адрозненне ад ранейшых паказаў — увага наведвальнікаў будзе засяроджана выключна на Падляшскім ваяводстве. Гэта абазначае, што падляшскую прапанову ўбачаць да сарака тысяч чалавек!»

Сцэнарый падляшскай прэзентацыі (13-19 ліпеня) у адпаведнасці з лозунгам сёлетняй выставы, засяроджіўся вакол сучаснай сельскай гаспадаркі і арганічных прадуктаў харчавання (у асноўным малочных), пры — як вызначана ў ходзе прэс-канферэнцыі ў Беластоку — акампанеменце багатай культурнай праграмы. Яе канцэпцыя рэалізуецца пад лозунгам «#Падляшша. Працуе на прыродзе». Гэтак жа, як у маі, яна складаецца з пастаяннай экспазіцыі, паказваючай культурнае багацце рэгіёна, яго прыродную спадчыну і мікс традыцый ды сучаснасці. Можна ўбачыць м.інш. прадметы са спасылкай на лагатып ваяводства (распрацаваны Лявонам Тарасэвічам) — эксклюзіўныя аздобы дызайнеркі Эльвіры Гораш ды сумкі і валёнкі, зробленыя беларускай мастачкай Маргарытай Дзмітрук, прыклады прадуктаў падляшскага кулінарнага багацця (сэнкач, мурашнік, пітны мёд, натуральныя сокі, гарбаткі, травяныя зборы, гарэлка «Зуброўка»), скульптуру Яраслава Пэршка — рэпліку адбітка капыта «Гатчыны» (сімвал рэстытуцыі зубра ў Белавежскай пушчы) або прадметы, зробленыя студыяй „AZE Design” з Чаромхі (абрусы і пасудзіны для спецый са спасылкай на культурную разнастайнасць рэгіёна). Атракцыёнам, таксама як і раней, з'яўляюцца паказы і танцавальныя майстар-класы групы „Fair Play Crew” ды дэманстрацыя з удзелам марсіянскага «ўсюдыхода», збудавана студэнтамі Беластоцкай палітэхнікі.

Падчас прэс-канферэнцыі ў Беластоку маршалак Башко адзначыў: «Ужо ў маі на „ЭКСПА-2015” мы дабіліся вялікага поспеху, які будзе працягвацца на гады».

Таму неабходна пачакаць, як гэтая прэзентацыя перакладзецца і ці, аднак, не прападзе ў гушчы соцень іншых глабальных тэндэраў, асабліва таму, што яшчэ нават у дзень канферэнцыі ў МУПВ не было ніякай інфармацыі пра „Падляшскі тыдзень” у афіцыйным раскладзе польскіх мерапрыемстваў на „ЭКСПА-2015”, хоць можна было знайсці інфармацыю пра тыдні іншых рэгіёнаў — пра тыя, якія ўжо мелі месца і якія маюць яшчэ адбыцца.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ



# «Бежанства. Exodus» — падрыхтоўка

■ Агнешка Карыткоўская-Мазур заахвочвала ў Саколах да ўдзелу ў спектаклі сустрэтага па дарозе Багдана Буйно

Гледачы прыязджаюць на месца на рэйкабусах, якія прыпаркаваны на блізкім лузе. Побач на брукаванай дарозе стаіць зламаная фурманка бежанцаў. Відаць цягнік з царскімі эмблемамі, прыпрануты па-мілітарнаму ў вайсковы брызент, з мяшкамі пяску на выпадак пажару, з гарматамі размешчанымі ў вагонах. Склад цягніка-платформы з гарматамі і пасажырскія вагоны з запасамі для жывёлы і людзей (мяшкі з сенам, снапкі саломы, клункі, пярыны). Відаць палявы шпіталь. Гледачоў у бок цягніка накіроўваюць салдаты-ахоўнікі. Каля разбітага воза бежанцы. Некаторыя з іх у роспачы, зачапляюць гледачоў і просяць дапамагчы перанесці частку сваіх рэчаў у цягнік. Уздоўж стаяўшага цягніка разбіты палявы шпіталь. Ваенныя палаткі са знакам Чырвонага Крыжа. Побач палатак стаіць хуткая дапамога. У палатках, на раскладных ложках, на зямлі ляжаць параненыя салдаты. Яны гавораць на розных мовах: на рускай, польскай, беларускай, і «панашаму». Некаторыя гуляюць у карты, іншыя моляцца, іншыя пакутуюць гучна, павольна паміраючы ад болю... Так пачынаецца апісанне першай сцэны драматургічнай версіі спектакля «Бежанства. Exodus», напісанага Данай Лукасінскай.

Спектакль будзе адбывацца ў цягніку і на адзінаццаці прыпынках на чыгуначным маршруце паміж станцыямі Саколы і Лапы. Па тэхнічных прычынах не мог адбыцца паміж Гарадком і Беластокам, як першапачаткова планавала спектакль рэжысёрка Агнешка Карыткоўская-Мазур, дырэктарка беластоцкага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі. У канчатковым рахунку ён павінен пачацца на чыгуначнай станцыі ў Саколах, дзе каля трохсот гледачоў сядзе ў спецыяльны цягнік. Але, перш чым рушаць у тэатральна-гістарычнае падарожжа, у Беластоку і якраз у Саколах рэалізатары прадстаўлення сустрэліся ў першыя два дні ліпеня са статыстамі, якія заявілі пра гатоўнасць удзельнічаць у ім. Некаторыя толькі ад жадання зайграць у прафесійным спектаклі. Іншыя зацікавіліся гісторыяй і бежанствам. Некаторыя таму, каб хоць бы ў невялікай ступені адчуць эмоцыі, якія ў 1915 годзе спадарожнічалі іх продкам, якія падаваліся ў глыб Расійскай імперыі.

## Варыла Леніну

Першая група, з больш чым шасцідзесяці чалавек, якія хочуць зайграць у спектаклі «Бежанства. Exodus», сустрэліся з рэжысёрам і прадзюсарам Віялетай Шымусюк-Парэдай на вялікай сцэне драмтэатра. У большасці прыйшлі маладыя дзяўчаты, хоць былі і старэйшыя дамы. Вельмі мала з'явілася мужчын (некалькі чалавек), што выклікала неспакой рэжысёркі і прадзюсеркі, таму што ў шматлікіх сцэнах павінны яны зайграць не толькі бежанцаў, але і казакоў, параненых салдат, ахоўнікаў чыгункі... Агнешка Карыткоўская-Мазур расказвала:

— Праект рыхтуем на працягу двух гадоў. Другое выданне спектакля адбудзецца восенню ў нашым тэатры пад назвай «Exodus. Лёсы» і будуць у ім паказаны гісторыі, прадстаўленыя ў пленэрнай частцы. Па дарозе Саколы — Лапы гледачы самі становяцца бежанцамі. Хто былі бежанцы? Яны былі намі ў мінулым. Яны былі нашымі суседзямі, калегамі, сябрамі, супрацоўнікамі ўстаноў, у якіх мы ў мінулым афармлялі справы, прадаўцамі ў крамах з тэкстылем... Сто гадоў таму мы маглі побач іх ехаць у глыб Расіі, прымаючы празяблай рукой кубак гарачай вады з іх рук, ахутваць нашых дзяцей у атрыманыя ад іх дзяружкі, грэцца плячом да пляча пры прыдарожных кастрах або супольна слухаць адзін аповед, легшы на таку ў выпадковым шалашы.

Сярод прыйшоўшых статыстаў была група самадзейных артыстаў тэатра «Т-3», які дзейнічае пры аддзеле Польскага саюза невідушчых у Беластоку, сярэдняга і старэйшага ўзросту, у тым ліку Яўген Сахарка і Валянціна Казёл. Спадар Яўген не скрываў:

— Мы прыйшлі з цікаўнасці і прэстыжу, каб зайграць у спектаклі драмтэатра. Але я думаю, што большасць з нас тут, на Усходзе, калі не ў сям'і, дык у суседстве, мела кагосць, хто быў бежанцам у той час.

Валянціна Казёл:

— Мама расказвала мне з сямейных пераказаў, што расіяне перад тым, калі немцы мелі сюды ўвайсці, крычалі, што тыя немцы ўсім галовы паадрэзваюць. Мая бабуля называлася Дарашкевіч, родам была з Меляшкоў і, казалі, што нават гатавала самому Леніну. Раней, як казалі, яна атрымала там высокую кампенсацыю ў рублях, калі сур'ёзна пацярпела пры падрыхтоўцы ежы.

18-гадовая Марта Іванюк жыве ў Гайнаўцы, але вучыцца ў Беластоку. На сустрэчу прыйшла ў тэатр з 13-гадовай сястрой Евай:

— Мы хочам удзельнічаць у спектаклі, таму што яго тэма для мяне і для сястры, тутэйшых беларусак, з'яўляецца важнай. Я пра сямейныя бежанскія гісторыі ведаю столькі, колькі распавяла мне бабуля, а яна сама нарадзілася ў 1939 годзе і бежанства не памятае. Яна распавяла мне гісторыю сваёй маці, якая нарадзілася ў 1912 годзе, а папраўдзе сястры яе мамы, якую пахавалі дзесьці на Пінскіх балотах. Бабуля да гэтага часу паўтарае гісторыю тае сястры — маёй прабабулі, якая там захварэла брушным тыфам. Але каб больш, штосьці больш падрабязна — не. Нават дакладная яна не ведае месца, у якім наша сям'я жыла ў бежанстве. Мы з сястрой ведаем, што выязджалі цэлыя вёскі, што была атмасфера панікі...

Многія маладыя людзі, якія прыйшлі на сустрэчу, бяруць удзел у тэатральных майстэрнях, арганізаваных акцёрамі беластоцкага драмтэатра. Сярод іх была група з некалькіх свежаспечаных ліцэістак-беластачанак. Адказваючы нам на пытанне, што яны ведаюць пра бежанства, адказалі:

— Нічога, ну, акрамя таго, што гэта было выгнанне на Усход людзей з гэтай тэрыторыі. У школе нам нічога не гаварылі і менавіта гэта наша першая сустрэча з тэмай бежанства.

## Сямейны дзённік прадзюсеркі

З багажом сямейных гістарычных ведаў аб бежанстве прыйшла ў сваю чаргу Іаланта Астроўская з Галадоў:

— Я хацела заявіць да ўдзелу ў спектаклі таксама дзве мае пляменніцы, якія пастаянна пражываюць у Рыбніку, але якія вельмі зацікаўленыя ў гісторыі бежанства. Мой дзед паехаў з бацькамі і шмат мне расказваў пра бежанства, хоць многа з таго ўжо сцерлася. Ён казаў аб тым, з якім стаўленнем з'язджалі згэтуль. Было сказана, што немцы, калі прыйдуць, дзяцей будуць тапіць у студнях, будуць гвалтаваць жанчын і на мясцовым насельніцтве будуць зроблены страшныя злачынствы. Вось чаму людзі з'язджалі і прытым цэлымі вёскамі. Трохі ўжо і мне самой сцерлася з памяці, бо калі дзед расказваў, мне тады было трынаццаць гадоў. Мой дзед быў 1910 года нараджэння. Запамятаў тое, што расказвалі яму бацькі. Ён згадваў, што ехалі праз Баранавічы і на канец прыбылі ў Іркуцк, а вярнуліся ў 1918 годзе. Паехалі прадзед, прабабуля, дзед і яго брат, які не вярнуўся адтуль. Дзедаў брат быў пісьменным чалавекам, скончыў сярэднюю школу. Вёў рахункі ў адной з мясцовых бойняў і там прыдушыла яго туша. З расказаў дзеда вынікала, што было добра, яны мелі працу і шмат ежы. Прабабуля, пэўна, прыбірала, а прадзед працаваў на чыгунцы. Горш пачалося з выбухам Кастрычніцкай рэвалюцыі і тады вырашылі вярнуцца. Там не было нічога, каб паесці. Усё дзяцінства я была прасякнута гісторыямі свайго дзеда, і таму я хачу прыняць удзел у спектаклі.

Таксама прадзюсерка спектакля мае сямейны досвед, звязаны з падзеямі стогадовай даўнасці. Яе прабабуля з непаўналетнімі дзецьмі трапіла з Тапалян у Арэнбург на поўдні Урала, на мяжы Еўропы і Азіі. Перад смерцю яе дзеда (у час бежанства быў ён найстарэйшым з братоў і сясцёр — сямігадовым хлопчыкам) напісаў уручную на амаль трыццаці старонках сшытка свае ўспаміны ад падарожжа і пабыўкі на Усходзе, як толькі ўмеў. Яны пачынаюцца з запісу: «Я памятаю, як казакі на конях ездзілі і нас з вёсак выганялі ў Расію, а нашы вёскі палілі, каб не засталіся. Мы ўцяклі ад фронту за Баранавічы на вазах, таму што цягнікі былі перагружаны войскам і боеприпасамі. У вялікім руху нас пагрузілі ў таварныя вагоны за Бабруйскам і везлі ў Ташкент. Яны сказалі нам: «Едзьце туды, гэта цёплая краіна, цар дасць харчоў (...). Мы не хацелі ў Ташкент толькі ў Арэнбург. Там нас выгрузілі і пасялілі ў баракі. Баракі былі цёплыя і светлыя. У бараках змяшчаліся ад 20 да 30 сем'яў. Пры бараках былі пабудаваны школа, бальніца, дзіцячы сад для бедных і асірацелых дзяцей (...)».

## Статыст на дарозе

У бібліятэцы Гміннага цэнтра культуры ў Саколах сабраўся дзясятак кандыдатаў у статысты. Прадзюсерка спектакля паказала ім праекты касцюмаў Агаты Вонс, у якіх яны выступяць. Таксама тут — як у ходзе сустрэчы ў Беластоку — зняла мерку кожнаму, каб ім пашыць касцюмы. На мясцовую чыгуначную станцыю, дзе мае разыграцца адна з першых сцэн спектакля — вяселле — чарговы раз зірнуў мастак-афарміцель Яцэк Маліноўскі.

Моніка Жуковіч, кіраўнік Дома культуры, спыталася:

— А мае двухгадовыя пляменніцы можна запісаць на спектакль, не будуць яны занадта малыя?

Віялета Шымусюк-Парэда:

— Вядома! Супер!

Пенсіянерка Эва Пэркоўская прыйшла на адборачны кастынг з мужам Уладзімірам:

— У мяне праблемы з сэрцам, але я хацела б выступіць. Мой «салдат» (муж — М. Х.) — таксама.

Затым дадала ў размове з «Нівай»:

— Я тут таму, што гэта вялікая гісторыя. Хачу дапамагчы, каб пра бежанства расказаць маладым людзям, бо яны мала разбіраюцца ў гісторыі ў цэлым.

На сустрэчу з'явіўся Тадэвуш Каліноўскі, які абяцаў прыдбаць у мясцовых жыхароў вазы. Сам ён мае брычку. У сцэне развітання бежанцаў зайграе яна карэту для перавозкі жывой іконы Маці Божай Неверагодна Прыгожай (яе зайграе Агнешка Мажэйка-Шакоўская):

— Двух вазоў сам не зладжу. Усяго пяць могуць быць прыдбаны, але справай зоймецца войт. Ён сказаў, што сам будзе гаварыць з уладальнікамі.

Музыку для спектакля піша вядомы кампазітар Міхал Яцашак (напрыклад, стварыў ён музыку для беластоцкай «Антыгоны»). Аднак, мае быць выкарыстана таксама жывая музыка — так званая рэгіянальная. Агнешка Карыткоўская-Мазур заявіла ў Саколах:

— Справа ў тым, каб таксама з дапамогай музыкі гледачы адчулі, што тое, у чым удзельнічаюць, было пачаткам канца. Нам патрэбны праваслаўны хор і хор дзяцей з такой сумнай песняй, можа калыханкай. Спатрэбяцца жалобныя песні, якія спявалісь ў дамах пры адпяванні нябожчыкаў.

На зваротным шляху ў Беласток, амаль на ўскраіне Саколаў, аўтамабіль, які вёз каманду «Бежанства. Exodus», раптам спыніўся з віскам шын. На абочыне дарогі стаяў 60-гадовы мажны мужчына з доўгай сівой барадой.

— Гэта ж чалавек для нашага спектакля! — амаль крыкнула рэжысёрка, убачыўшы яго.

Гэта быў мясцовы жыхар — Багдан Буйно, якога бабуля таксама была ў бежанстве. Трапіла ў глыб Расіі:

— Памятаю, што мая бабуля расказвала, як па дарозе нямецкія цэпеліны бамбілі чыгуначныя станцыі ў Расіі...

— Спадар Багдан, безумоўна, зайграе ў нашым спектаклі. Будзем спадзявацца, што не паголіць бараду, — прашаптала рэжысёрка ўжо ў аўтамабілі, запісваючы штосьці на палях сцэнарыя Даны Лукасінскай.

Статысты працаваць над спектаклем будуць нядоўга. З 26-27 жніўня да прэм'еры, якіх дзве запланаваны на 29 і 30 жніўня.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Канцэрт над Семяноўкай

Прыйшло цёплае лета і на Семяноўскае возера прыехала многа турыстаў. Вядома, над вадой найлепшы адпачынак у спякотныя дні. А ёсць жа аматары купання ды катання на байдарках і лодках. Прыехала многа аматараў загараць на сонцы.

Пад вечар 4 ліпеня г.г. на беразе возера ў прыгожым амфітэатры ў Старым Двары Нараўчанскі Гмінны асяродак культуры арганізаваў канцэрт. Запрасіў тры эстрадныя мастацкія калектывы, у тым ліку папулярныя „Акцэнт" і „Санель". Прыехала і прыйшло каля 2 тысячы чалавек. Гэта абсалютны рэкорд у Нараўчанскай гміне! Месц на стаянках для аўтамашын не хапіла для ўсіх. А варта дадаць, што сёлетняй вясной пабудавалі іх больш.

Ад 18 гадзіны са сцэны плылі вясёлыя рытмічныя польскія, украінскія і беларускія мелодыі, заахвочваючы ўсіх прысутных да танцаў. І многія танцавалі. А песні амаль усе пра каханне. Гэтак званая лёгкая музыка ўсім адпавядала. Атмасфера была цудоўная. У перапынку ўдзельнікі мерапрыемства ішлі і беглі купіць сабе ахаладжальныя напіткі, піва і марожанае (было іх удоволь). Музыка плыла яшчэ пасля прыгожага захаду сонца над возерам. Было весела і прыемна.



## Конкурс для сялян

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) ужо звыш 10 гадоў ладзяць конкурс на найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу. Мясцовыя жыхары назвалі яго „агародчыкавым" (у конкурсе шмат увагі прысвячаюць кветкавым агародчыкам і тым з агароднінай). У ім могуць удзельнічаць жыхары з усяе гміны.

Сёлета да яго прыступілі сяляне з Альхоўкі, Заблотчыны, Нараўкі, Плянты, Семяноўкі і Скупава. Да 15 ліпеня гэтага года сялянскія панадворкі і агароды наведае конкурснае „журы" з членаў пастаяннай камісіі па сацыяльных і грамадскіх справах Гміннай рады ў Нараўцы.

Уручэнне дыпломаў і грашовых узнагарод пераможцам адбудзецца на першай пасля летніх канікул сесіі нараўчанскай Гміннай рады.

(яц)

## Ці ведаеце, што...

У Чаромхаўскай гміне на дзень 21 траўня 2015 года пражывала 3 439 жыхароў. Самымі старэйшымі лічацца Пятро Зіневіч з вёскі Чаромха 1920 года нараджэння, Яўгенія Высоцкая ды Параскева Курыла з Чаромхі-Станцыі 1921 года нараджэння.

Сёлета да таго часу памерла адзінаццаць чалавек, нарадзілася трое дзяцей, а пяць пар пабралася шлюбам.

(ус)

# Мураваныя замкі Гродзеншчыны XIV-XVII стагоддзяў

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы і Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей (ГДГАМ), з дапамогай Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве арганізавалі ў выставачнай зале белмузея выставу «Мураваныя замкі Гродзеншчыны XIV-XVII стагоддзяў», якой адкрыццё адбылося 3 ліпеня. Наведвальнікам выставы прапанаваліся археалагічныя экспанаты, знойдзеныя на тэрыторыі мураваных замкаў Гродзеншчыны. Выявы Мірскага, Крэўскага, Лідскага, Гродзенскага, Любчанскага, Навагрудскага, Гальшанскага замкаў з дэталёвай інфармацыяй аб помніках архітэктуры і іх заснавальніках прысутныя маглі ўбачыць на стэндах, развешаных вакол выставачнай залы.



Удзельнікі адкрыцця выставы з Беларусі і Падляшша

— Выстава «Мураваныя замкі Гродзеншчыны XIV-XVII стагоддзяў» была выканана па матэрыялах нашых археалагічных даследаванняў і змяшчае экспанаты цікавага гістарычнага мінулага Гродзеншчыны. На падставе археалагічных знаходак можна даведацца аб гісторыі змаганняў нашых продкаў за Бацькаўшчыну і іх паўсядзённым жыцці. У нашым музеі знаходзіцца звыш 70 тысяч экспанатаў, у гэтым ліку больш за 40 тысяч археалагічных знаходак. У Гайнаўку мы прывезлі 105 экспанатаў з розных дзялянак жыцця. Нашы продкі будавалі замкі, у якіх абараняліся ад захопнікаў. З таго часу засталася зброя, якая выклікае асаблівае зацікаўленне ў наведвальнікаў археалагічных экспазіцый, — сказала намеснік дырэктара ГДГАМ па навуковай працы Алеся Саўчук. — На Гродзеншчыне дзейнічае 17 раённых музеяў, якім наш музей аказвае метадычную дапамогу.

Па выставе абвяла і пра паасобныя экспанаты падрабязна распавяла загадчык Археалагічнага аддзялення ГДГАМ Наталля Кізюкевіч.

— Культура і археалогія не ведаюць межаў. У нас ёсць артэфакты знойдзены каля Суража. Экспанаты, якія мы прэзентуем, былі знойдзены перш за ўсё ў 1978-1995 гадах. Частка была знойдзена раней, у дваццатых і трыццатых гадах мінулага стагоддзя. Каб прывезці ў Польшчу гэтыя знаходкі, мы патрабавалі дазвол ад Міністэрства культуры. Цяпер наведвальнікі вашага музея могуць пабачыць рыцарскую зброю, мячы, ці шталеты, якія ў далёкім мінулым былі вельмі дарагімі. Бачым тут разнародныя кафлі, прадметы штодзённага карыстання, напрыклад, падковы пад абутак, каб менш нішчыліся падэшвы. Замкі на Гродзеншчыне разбураліся падчас войнаў, але таксама разбіралі іх мясцовыя жыхары з мэтай выкарыстаць цэглу ў якасці будаўнічага матэрыялу, — гаварыла Наталля Кізюкевіч.



Цяпер наведвальнікі вашага музея могуць пабачыць рыцарскую зброю, мячы, шталеты, прадметы штодзённага карыстання, — гаварыла загадчык Археалагічнага аддзялення ГДГАМ Наталля Кізюкевіч

— Перад адкрыццём нашай выставы мы паглядзелі экспазіцыі вашага музея і яны нам моцна спадабаліся. З выкарыстаннем невялікай колькасці штатаў у вас многа робіцца. Паспяхова вядзецца тут музейная дзейнасць. Мы пад уражаннем ад культурніцкай дзейнасці гайнаўскага музея, які арганізуе шмат музычных мерапрыемстваў. Мы наладзілі супрацоўніцтва з музеем з Гайнаўкі ў галіне музейнай дзейнасці. Нашыя працаўнікі прыязджалі ў Гайнаўку, а работнікі гайнаўскага музея прыязджалі да нас і мы абменьваліся вопытам. Зараз выставу работ вашых мастакоў можна ўбачыць у самай шыкарнай Сенатарскай зале Гродзенскага замка, дзе адбываюцца розныя ўрачыстасці, — дабавіла намеснік дырэктара ГДГАМ Алеся Саўчук.

— Супрацоўніцтва з Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеем мы наладзілі ў 2011 годзе і тады заключылі адпаведную дамову. Мы запрашалі да нас спецыялістаў з Гродна, з якімі кансультавалі нашы этнаграфічныя экспазіцыі. У гродзенскім музеі мы знаёміліся з іх музейнай дзейнасцю і вучыліся забяспечваць экспанаты ад знішчэння. Зараз на выставе ў шыкарнай зале Гродзенскага замка прэзентуюцца 38 мастацкіх прац нашых дзевяці беларускіх мастакоў: Анатоля Краўчука, Віктара Кабаца, Міраслава Здрайкоўскага, Данеля Грамацкага, Станіслава Паскробкі, Алега Кабзара, Уладзіслава Петрука, Аляксандры Чарняўскай і Міколы Яноўскага. Жывапіс, рысункі і графіку гэтых мастакоў мы прэзентавалі раней на асобных выставах у нашым белмузеі ў рамках «Беларускага алфавіта мастацтва». Падчас рэалізацыі гэтага праекта мы паказвалі работы звыш дваццаці беларускіх мастакоў і іх асталася ў нашым архіве звыш ста мастацкіх прац. На адкрыццё выставы нашага мастацтва ў Гродне ездзілі мы з Міраславам Здрайкоўскім і Данелем Грамацкім. Паглядзелі на Гродзеншчыне гістарычныя помнікі і пазнаёміліся з многімі культурнымі прапановамі. Цяпер музейнікаў з Гродна, якія ў нас першы раз, знаёмім з нашай дзейнасцю. Супрацоўніцтва мабілізуе абодва музеі да большай актыўнасці. Прадбачваем прадаўжаць гэтае карыснае супрацоўніцтва, — сказаў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк. — Мы дамовіліся, што гродзенская археалагічная выстава будзе адкрыта ў нашым музеі да канца жніўня, але вядзем размовы, каб прадоўжыць яе дзейнасць на верасень. Тады маглі б паказаць экспанаты вучням падчас школьных экскурсій.

— Трансгранічнае супрацоўніцтва паміж гродзенскім і гайнаўскім музеямі важнае, бо стварае магчымасць абмену вопытам. Па абодвух баках мяжы супольная гісторыя, традыцыі і вельмі падобная культура. Паміж музеямі адбываецца абмен ведамі па музейнай справе, а выставы мастацтва падляшскіх творцаў у Гродне і экспанатаў ГДГАМ у Гайнаўцы дазваляюць паспяхова дайсці з беларускай культурай і археалогіяй да насельніцтва па абодвух баках мяжы, — заявіў дырэктар КЦБ у Варшаве Эдуард Швайко.

— Экспазіцыя, з ухілам на гісторыю Беларусі, цікавая. Яна знаёміць з нашым мінулым. Мы на ўроках размаўляем аб замках Беларусі. Я нават падрыхтаваў адмысловую прэзентацыю. Зараз бачу, што маю прэзентацыю трэба будзе папоўніць. Добра было б, каб выставу маглі пабачыць нашы вучні ў верасні, — заявіў Янка Карчэўскі, настаўнік беларускай мовы мясцовых белліцэя і белгімназіі.

На музейную сустрэчу прыбылі таксама былы белліцэйскі настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі.

— Экспанаты тут цікавыя. Можна пазнаёміцца з нашай гісторыяй, пра якую мала ведаюць нашы беларусы і беларусы ў Рэспубліцы Беларусь, — гаварыў Васіль Сакоўскі. — Замкаў у Беларусі было многа, але іх нішчылі падчас шматлікіх войнаў. Пракаціліся па Беларусі шведы, потым французы з Напалеонам. Падчас дзвюх сусветных войнаў многа было разбурана на Беларусі.

Школьнікі Аляксандр і Мікола прыбылі на адкрыццё выставы са сваёй мамай Марыяй Здрайкоўскай, якая стараецца прывіць сынам любоў да сваіх традыцый і гісторыі.

— Нам асабліва падабаецца рыцарская зброя, — заявілі згодна Аляксандр і Мікола.

— Экспазіцыя гродзенскага музея зрабіла на мне вялікае ўражанне. Мы ўпершыню арганізуем выставу археалагічных экспанатаў. Цікавыя прадметы мінуўшчыны, выявы замкаў заахвочваюць дакладней пазнаёміцца з нашай складанай гісторыяй. Беларусы мусілі змагацца за захаванне веры і нацыянальнай тоеснасці, — гаварыла Агнешка Ціханюк, гісторык культуры белмузея.

— Мы прывезлі цікавейшыя экспанаты, якія сведчаць аб нашым славутым мінулым. Некаторыя прэзентаваныя тут экспанаты вельмі рэдкія. Кожны прадмет на выставе ўнікальны і нясе з сабою нейкую інфармацыю. Ёсць тут гаршковыя, міскавыя і больш позняя кафлі. Сярод бытавых рэчаў ёсць фрагмент талеркі з гербам Радзівілаў, відэлец з касцяной акладкай з Мірскага замка. З ліку вайсковай зброі ёсць цікавыя рыштункі воіна і каня, — гаварылі навуковыя працаўнікі ГДГАМ Вольга Кураш і Дар'я Каранкевіч.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# У палескай глыбінцы (6)



Далей ужо не было куды ехаць, дзесяць кіламетраў адсюль пачыналася Рэспубліка Беларусь. Пра такія мясціны як сяло Тур у непадалёкім Шацку гаварылі з пачуццём перавагі:

— Не трэба туды ехаць, там забытыя вёскі!

Праўда, каб дабрацца з Шацка ў Тур, мы паехалі ў Ковель, павярнулі на поўнач у Ратна, каб адтуль зноў накіравацца на захад у бок праслаўленага з-за беларускага базара Забалацця, там зноў павярнулі на поўнач, дзе той „забыты" Тур. Апошні адрэзак дарогі ўяўляў сабой шчарбатую, нерамантаваную ад часоў Брэжнева асфальтоўку. У суме мы зрабілі звыш стокіламетровы паўкруг. Гэта ў пэўнай меры віна трапічнага надвор'я — усё жывое перлася да вады!

На месцы здзівіла безліч азёр, не пазначаных на карце. Апрача манументальнага Турскага возера, праз якое пракладзены Арэхаўскі канал, тут былі азёры Вельхава, Доўгае, Дружба... Сустрэтыя па дарозе туземцы кіравалі менавіта на Дружбу:

— Там калісь *предсядацелі* купаліся!

І праўда, возера ачаравала з першага погляду! Раз, што была ў ім мяккая, крыштальная вадзіца і лагодныя пясчаныя берагі, дык на пляжы, які сам сабой уяўляў звычайны луг з засохлымі каровінымі ляпёшкамі, адбывалася нешта накшталт вясковага Купалля.

* * *

Найгорш, што ў Туры не было гасцініцы, ні агратурыстычных кватэр. Сяло ў нічым не напамінала забытую вёску. Наадварот, яно кіпела энергіяй і нейкай інтрыгай. Тут працавалі два магазіны, бар „Дружба", былі школа, царква, амбулаторыя, пошта. Ды і ў самім сяле, калі глядзець па нашых мерках, пражывала шмат народу — дзве з паловай тысячы. Тур напамінаў іншыя палескія вёскі, для якіх сваё сяло — асобная краіна і цэлы свет. Тыя, што жылі дзесяць кіламетраў далей, лічыліся чужынцамі і часам найбольшымі ворагамі. Спачатку мы падаліся ў магазін „Люкс". Перад бяседкай, прыліпшай да сцяны магазіна, выстойваў конь з фурманкай.

— Ці не падкажаце, у каго тут можна пераначаваць? — спыталі мы адной з ліку трох прадаўшчыц. Жанчыны былі апрануўтыя на „беларускую моду" ў халацікі-формы, іх прыгожыя галоўкі аздаблялі кепкі-пілоткі. Кожная з іх прадавала тавары толькі за сваім прылаўкам. Каб купіць хлеб, халву і віно, мы былі вымушаны стаяць у трох чэргах і плаціць тры разы паасобныя рахункі. Наш час не быў змарнаваны.

Не паспелі зрабіць пакупкі, калі пытанне начлегу было ўжо высветленае. Прысутныя ў магазіне сяляне, усе як адзін, вельмі хацелі дапамагчы. Урэшце надумаўся Валодзя. Заначаваць запрасіў ён у хату сваякоў, якія з'ехалі на пастаяннае жыхарства ў беларускае Бярэсце. Валодзя не быў зацікаўлены заробкам.

— Трэба ж дапамагчы людзям!

Мы дамовіліся з ім на дзясятую вечара ля магазіна ў другім канцы вёскі, а самі, наўючаныя смакоццямі і святочнымі напіткамі, паперліся на возера. У адказ на развітанне, адна з прадаўшчыц кінула:

— *Шчэ прыходьтэ!*

* * *

У магазін „Люкс" мы вярнуліся праз няцэлую гадзіну.

— Ці падабаецца кватэра? — спытала на прывітанне прадаўшчыца. Хоць мы не бачылі яе на вочы, адказалі ў адзін такт: падабаецца! Бо ў пэўным сэнсе мы адчувалі сябе гасцямі не толькі Валодзі, а цэлага Тура. Ды і самі прыпёрліся ў магазін за півам для мясцовых, каб „адставіць"...

Адпачываць ля возера — чыстая роскаш. Абапал вады, у адлегласці, якая дазваляла на прыватнасць, выседжвалі невялікія групкі моладзі. Звычайна па дзветры парачкі. Хто купаўся, хто смажыў сабе шашлыкі, хто іншы загараў у цяні дрэва. Дзе-нідзе раздаваўся пісклівы дзявочы смех, які кантраставаў са здаровым мужчынскім рогатам. Ды яшчэ між групкамі праціскаліся, для чыстай прыгоды, матацыклы, абчэпленыя, быццам ліпучкі на мухі, пасажырамі. Паміж кавалерамі выседжвалі шчаслівыя дзеўкі ў купальніках. Гэты несвядомы эратызм і першыя падыходы яшчэ больш падагравалі і так трапічную жару.

На возера з'язджалі таксама маладыя сем'і на фурманках. Бацька выпрагаў каня з воза, вёў яго напаіць, а пасля купаў жывёлу ў возеры. Маці, тым часам, рыхтавала яду на раскладзенай ля воза радзюжцы. А дзеткі, якія займалі можа палову воза, адразу, быццам выдры, ныралі пад ваду. Карціну каларытна папаўнялі каровы, прыгоненыя з папасу. Красулі выстойвалі з жыватамі ў возеры, ляніва пераежоўваючы траву. Для іх быў выдзелены асобны пляж на другім канцы возера. На самой справе жывёла і людзі здаваліся тут дапаўненнем і адзінствам. Нас таксама, беручы пад увагу моўнае зразуменне, маладзёны з-пад суседняга дрэва палічылі „забужанскімі ўкраінцамі". Адкуль гэта ведалі? Іх цікавасць свету ў ніякай меры не была нацыянальнай, усе іх пытанні наконт Польшчы датычылі аднаго — колькі можна зарабіць і колькі што каштуе...

— А вы размаўляеце па-ўкраінску ці па-свойму? — спыталіся мы ў дзелавых кавалераў.

— Канешне, па-свойму.

* * *

На змярканні пляж раптоўна апусцеў і мы таксама рушылі паглядзець сваю кватэру. Драўляны зялёна-жоўты дом стаяў у полі, сярод палосак аўса і градак морквы. У ім была абшырная кухня, салон з фатэлямі, тры пакоі, шкляны ганак. Першы пакой быў наладжаны ў этнаграфічным стылі, там знаходзіліся вышываныя ручнікі і посцілкі, гафтаваныя падушкі, тканыя ходнікі. Другі пакой прыаздаблялі фотаабоі з панарамай Карпат. У маім, проста на зямлі, стаялі пяць старых тэлевізараў...

Ад захаплення і неўтаймаванай радасці мы зноў рушылі на сяло. Хоць на двары набліжалася поўнач, у бары „Дружба" аж кішэла ад разахвочанай моладзі. Нашу прыгожую кампанію — тры журналісткі і барадаты журналіст-півавар, з ходу палічылі „найлепшымі" сябрамі. У буфеце мы набылі не абы-што. Урэшце пашанцавала купіць паўсухое, да таго ж грузінскае, віно. У палескіх вёсках гандлююць толькі салодкім віном.



— Чаму ў продажы толькі салодкае віно?

— Яно для дзяўчатак і цётак. А нашы дзяўчаткі алкаголю не п'юць...

Праўда, ці гэта на пляжы, ці ў бары „Дружба" мясцовыя хлопцы частавалі півам толькі Л., адзінага ў кампаніі мужчыну. Ледзь мы выклікалі яго з бара „Дружба".

— *Шчэ прыходьтэ!* — кінула на развітанне прадаўшчыца.

Згодна з мясцовай традыцыяй, купальскія гулі мы рашылі працягнуць у камерным саставе. Да нас завітаў Валодзя з чарніцамі, тварагом, малаком і міскай вады з калодзежа.

— Колькі за гэта? — спытаў Л.

— Ну, што вы! — пакрыўдзіўся гаспадар. — Гэта ж гасцінец.

Валодзя выпіў адно піўцо, падарваўся на ногі і патлумачыўся: „Ахвотна пасядзеў бы, але ж мусова дахаты. У мяне пяцёра дзяцей".

Палешукі, нягледзячы на сусветныя тэндэнцыі, трымаюцца сваіх мерак. Да шчасця тут трэба найменш пяцёрку дзяцей.

* * *

Ранні туалет мы прынялі на тым самым возеры Дружба. Непадалёк трох паліцыянтаў распівала пляшку. Магчыма з тае нагоды, што ўкраінскую «міліцыю» перайменавалі ў «паліцыю», ды пераапранулі ў новыя мундзіры, на падабенства паліцаяў з Нью-Йорка. Магчыма, яны абмяркоўвалі пытанне: што, дзе, колькі каштуе, аднак на адлегласць выглядалі як амерыканскія акцёры...

— Але ж тут стройныя мужчыны! — не стрымала адна наша сяброўка. Апошнія, толькі ёй падтакнулі.

У палескіх „забытых" вёсках людзі як нідзе прыгожыя. Асабліва мужчыны, дзеці. Іх стрункія фігуры прамяняюць здароўем і першабытнай, жывёльнай сілай. Кожны тут выглядае асобна, арыгінальна. Калі дадаць яшчэ іх адкрытасць і дасціпнасць і тую праслаўленую гасціннасць — чалавек не верыць, што пабывае ў сваім часе.

Возера Дружба таксама памяняла назву. Моладзь на пляжы гаварыла пра яго Святое. Чаму так? У адказ мы пачулі знаёмую палескую легенду. Даўным-даўно тут стаяла царква. Яна правалілася пад зямлю, а ва ўпадзіне зрабілася возера. У Вялікдзень тут можна пачуць царкоўныя званы і спевы з глыбіні тоняў. Ды яшчэ на блакітным люстры вады час ад часу можна ўбачыць як плаваюць іконы...

Легенда, як і пабачанае на беразе возера „купалле", здавалася дзіўна знаёмым. Падобныя легенды маюць азёры Свіцязь і Пачаеўскае.

Палескае „купалле" я таксама ўжо калісь апісала. Праўда, мой сюжэт быў сатканы на ўспамінах трыццаціпяцігадовай даўнасці і датычыў купальскіх абрадаў у прыдняпроўскім Гарошкаве, роднай вёсцы Анатоля Сыса. Там таксама не было прыдуманых карагодаў і штучнай весялосці, ад якой памірае душа.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Што спадабалася — не спадабалася!

Апытальнік сярод удзельнікаў 29-тых Сустрэч «Зоркі».

Першай пытанні ставіць ***Оля Буслоўская:*** *— Што Табе найбольш падабаецца на Сустрэчах «Зоркі»?*

***Юстына Марчук:*** — Мне найбольш падабаецца тое, што я развіваю сваю мову, беларускую мову і тое, што магу спаткаць многа вельмі цікавых людзей. Я пазнала тут многіх маіх сяброў.

***Уля Падгаецкая:*** — Мне найбольш падабаліся сустрэчы з рознымі людзьмі, якія маюць нейкае дачыненне да беларускай мовы.

***Оля Зінкевіч:*** — Тое, што мы можам самі пісаць вершы, апавяданні, браць інтэрв'ю. Можам таксама пазнаць цікавых людзей.

***Патрыцыя Чамярыс:*** — Мне найбольш падабаюцца людзі, з якімі мы можам тут працаваць.

***Настаўніца Анна Франкоўская:*** — Мне найбольш падабаецца атмасфера Сустрэч. Вучні, якія прыехалі і хочуць працаваць, што не трэба вас ганяць да пісання, што самі займаецеся і ведаеце што рабіць і прыносіце нам гатовыя артыкулы для рэдакцыі і праверкі. Што, нягледзячы на вялікую работу, маем шмат свабоднага часу.

***Вераніка Кардзюкевіч:*** — Мне найбольш падабаюцца людзі, з якімі я працую, а таксама атмасфера Сустрэч.

***Крыстыян Паскробка:*** — Усё. Усё. Тут вельмі цікавыя людзі і ўсё цікавае...

Апытальнік працягвае ***Клаўдзія Галінская:*** *— Што Табе найменш падабаецца на Сустрэчах «Зоркі»?*

***Юстына Марчук:*** — Мне найменш падабаецца тое, што тут вельмі цяжка спаць, таму што іншыя дзяўчаты з іншых пакояў шалеюць да позняй гадзіны і цяжка заснуць. Але агульна ёсць вельмі добра.

***Уля Падгаецкая:*** — Тое, што маем мала свабоднага часу.

***Оля Зінкевіч:*** — Праўду сказаць, тут вельмі добра, файна. Думаю, што няма дрэнных рэчаў.

***Настаўніца Анна Франкоўская:*** — Усё вельмі файна, супер! Хачу, каб такія летнікі і сустрэчы арганізаваліся часцей, нават два разы ў год. Дрэнных рэчаў не бачу.

***Вераніка Кардзюкевіч:*** — Мне не падабаецца тое, што трэба раніцай уставаць.

***Крыстыян Паскобка:*** — Што дзяўчаты спаць не даюць!

***Крыстыян Паскробка:*** — Мммм... Вельмі цяжкае пытанне. Прыехаць хацеў бы — а чаму? Штось ёсць у гэтых Сустрэчах, яны прыцягваюць. Як раз прыедзеш, то хочацца яшчэ і яшчэ раз...

Апытальнік працягвае ***Оля Буслоўская:*** *— Што для Цябе было самым цікавым? Што Цябе тут сустрэла?*

***Оля Зінкевіч:*** — Я пазнала новых людзей. Штось новае напісала.

***Вераніка Кардзюкевіч:*** — Я магла забава і я многаму вучуся.



У Кудаку з Валодзем Вясялоўскім, колішнім карэспандэнтам "Зоркі"

Размову працягвае **Агнешка Петручук:** *— Ці Вы хацелі б прыехаць у наступным годзе і чаму?*

***Оля Зінкевіч:*** — Думаю што так. А чаму? Каб не ісці ў школу. Каб пазнаць яшчэ больш файных людзей, каб мець магчымасць друкавацца ў газетах.

***Настаўніца Анна Франкоўская:*** — Пэўна, што так! Калі будзе такая магчымасць, напэўна прыеду, каб зноў сустрэць вучняў, можа іншых і можа гэтых самых. Можа яшчэ раз забяру больш сваіх вучняў.

***Вераніка Кардзюкевіч:*** — Я напэўна хацела б прыехаць. Гэта цудоўная пісаць вершы.

***Крыстыян Паскробка:*** — Нашыя песні, якія спяваем, едучы «ўладзімірцам» — гэта перабівае ўсё.

Апытальнік узнік як асобная радыёперадача пад кірункам рэдактара ***Міхася Сцепанюка***. Апытальнік падрыхтавалі, правялі, заняліся апрацоўкай гуку і падрыхтавалі для сваёй газеты «Сустрачанскія навіны»: ***Наталля Васько, Оля Буслоўская, Клаўдзія Галінская, Уля Марчук, Агнешка Петручук, Міхась Сахарчук.*** Перадачу можна паслухаць у фейсбуку на профілю **Сустрэчы «Зоркі»**.



Аладкі смакуюць Таісе Фіёнік

# Аладкі з Бора-Здруй

**(УНІКАЛЬНЫ РЭЦЭПТ ЛЮДМІЛЫ КАЗЛОЎСКАЙ)**

**КАМПАНЕНТЫ:**

**0,5 літра кіслага свойскага малака або грэцкага ёгурту;**
**2 яйкі;**
**0,5 лыжачкі пітной соды;**
**1 лыжычка цукру;**
**Крышынка солі;**
**Арамат для смаку;**
**0,5 кг мукі.**

**СПОСАБ ПРЫГАТАВАННЯ:**

**Да малака дадаць соду і замяшаць. Затым дадаць два яйкі, растрапаць усё. Нельга забыцца пра цукар, соль, арамат. Дадаваць пакрысе мукі, а на сам канец дадаць кубікі яблык. Смажыць у глыбокай аліве.**

**СМАЧНА ЕСЦІ!!!**

**Рэцэпт запісала Вераніка Кардзюкевіч — „Вокны Беларусі"**

## Пазнаць сябе

*Кожны з нас іншы,*
*кожны інакш думае.*

*Для аднаго спадабаецца тое,*
*для іншага спадабаецца сёе.*
*І так плыве наш свет*
*і цешыцца, што мы такія*
*прытокі адной ракі,*
*хоць такія розныя...*

*Кожны з нас іншы,*
*кожны інакш думае.*

*Найважнейшае, каб пазнаць сябе,*
*каб жыць з сабой у згодзе.*
*Ты як кропля ў гэтай рацэ*
*і хаця выглядаеш як іншыя*
*у сярэдзіне ты іншы.*
*Тваё сэрца б'еца ў іншым рытме.*

***Наталля Васько***
***— «Сутрачанскія навіны»***

# УВАГА КОНКУРС! № 29-15

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 26 ліпеня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Два браты**
**глядзяць у ваду,**
**а ніколі**
**не зыдуцца.**
**Б.....**

**Брат сястру**
**даганяе,**
**а сястра**
**ад барата ўцякае.**
**Д.... і Н..**

**Што нас корміць,**
**а есці не просіць?**
**З....**

**Адказ на загадкі № 23-15: ліпа, неба, зоркі, месяц. Узнагароду, кніжку «Ехаў казачнік Бай», выйграў Куба Алексяюк з Нарвы. Віншуем!**

# Інтэрв'ю з каменем

„Вокны Беларусі": — ***Добры дзень! Як жыццё? Як справы?***

**Камень Манька:** — Лепш памаўчаць. Няма чым добрым пахваліцца!

**ВБ: —** ***Чаму, так?***

**КМ:** — Дзеці і ўнукі перасталі прыязджаць. Мужа забралі „на каменны фундамент", суседка забрала ўсе грыбы з майго лесу...

**ВБ: —** ***Навошта ёй Вашыя грыбы?***

**КМ:** — Я думаю, што яна вядзьмарка, сяброўкі на лавачцы так шапталіся.

**ВБ: —** ***А як праводзіце дні-ночы?***

**КМ:** — Думаю...

**ВБ: —** ***Пра што?***

**КМ:** — Пра поле, пра лес, пра працу, пра агарод.

**ВБ: —** ***Няўжо ў Вас адны сумныя справы. А можа ёсць нешта, што дае Вам радасць?***

**КМ:** — Ведаеце, скажу вам у сакрэце — я пішу вершы.

**ВБ: —** ***Прачытайце, калі ласка, свае вершы.***

**КМ:** — Дык паслухайце і ацаніце самі:

**Камень**

*Закрытая ў камяні, без жыцця,*
*Забыўшы пра каханне, радасць,*
*Стаю тут ужо многа гадоў.*
*Не магу плакаць ні смяяцца,*
*Толькі вечным сном я абнята.*
(Магдаліна Бяляўская)

**ВБ: —** ***Адкуль бярэце натхненне для пісання?***

**КМ:** — З ранейшага, людскога жыцця.

**ВБ: —** ***Вы калісь былі чалавекам?***

**КМ: —** Так, даўно-даўно. Ну і загаварыліся, пара развітвацца, бура надыходзіць.

**ВБ: —** ***Ці яшчэ калі-небудзь нешта нам скажаце?***

**КМ:** — Можа так, можа не! Мне пара дахаты. Да пабачэння!

**ВБ: —** ***Да пабачэння! Да пабачэння!***



Камень-метэор

# Наша радыёперадача і сельфі!

На Сустрэчах «Зоркі» мы мелі магчымасць сустрэцца са спадаром Міхасём Сцепанюком — галоўным рэдактарам праграм для нацыянальных меншасцей на Радыё Беласток. Удзельнікі Сустрэч узялі інтэрв'ю на тэму праектаў у «Шчытах», другая частка пытанняў тычылася Сустрэч «Зоркі», на якіх пабываў наш госць. Пасля, пад кірункам спадара Міхася, мы падрыхтавалі радыёперадачу пра 29-тыя Сустрэчы «Зоркі». Гэта быў незвычайны досвед, хоць мы былі выкінуты на «глыбокія воды» журналісткі, рабілі гэта з вялікім зацікаўленнем. Над радыёперадачай працавалі амаль цэлы дзень, самі запісалі інтэрв'ю з «Зоркай», правялі апытальнік сярод сяброў і апрацавалі гук. Эфектам нашай працы была радыёперадача пад загалоўкам «Сустрачанскія навіны».



А на памятку ад радыёжурналісцкай прыгоды мы зрабілі сельфі са спадаром Міхасём. Можаце яго паглядзець у фейсбуку на профілю Сустрэчы «Зоркі».

Уля Марчук
– «Сустрачанскія навіны»

## Вершы Віктара Шведа



### Спазняюцца нам цягнікі

— Дружа мой, паслухай,
Навошта гэты расклад руху,
Калі вось ён цяпер такі,
Што спазняюцца цягнікі?

— Каб не спазняліся нам, Ваня,
Усе залы чакання,
Што вакзалы нам далі,
Непатрэбнымі былі б.

### Не рабіў бы нічога

Марыць раніцай Агата
І пытае свайго брата:
— Што зрабіў бы тады ён
Каб меў долараў мільён?

Крыху думаў Яраслаў
І такі адказ ён даў:
— Каб меў долараў так многа
Не рабіў бы я нічога.

* * *

*Ёсць такі час,*
*Калі няма натхнення.*
*Ідэі ўзляцелі дзесь*
*за гарызонт,*
*А я сяджу і думаю.*

***Уля Марчук***
***– „Сустрачанскія навіны"***

# Польска-беларуская крыжаванка № 29-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 25:**

Пірог, пастой, школа, паркан, партал, не, акт, дух, парог. Праца, пах, шпак, порт, галка, скалка, стан, айсберг.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Алек Чарнецкі, Патрыцыя Лаўнічук, Наталля Лукша** з Нараўкі, **Куба Алексяюк, Юліта Севастынюк, Кінга Гурцэвіч, Давід Банькоўскі, Кася Станько, Міхал Тапалянскі, Эва Анджэйчык, Юля Шкляжэўская** з Нарвы, **Зузанна Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Lepiej | As | | | Monika | | Palec / Mięta | Sad | |
| Lek | | Klasa | Mamuś | | | | | |
| | | | Ola / Anoda | | | | | |
| Planeta | | | | | | | | Jawa |
| | | | | | | | Ja | |
| Pszenica / Jak | Sok | | | | | | | |
| | | Droga | | | | | | |

№ 28 [12-07-2015]

*Галіна ШУЛЬСКАЯ-ПЕХ*

### Новае жыццё

Сёння новае жыццё
надыходзіць здалёк.
Жыццё, як Нарва-рака.
Жыццё, як каханы
бабулі Аксені дом.
Ці здалёк мяне бачаць
прыгожыя вочы бабулі?
Я ж цяпер не адсюль.
Я здалёк.
Я з краіны,
дзе плыве старыцай Нарва.

Жыццё зіхоча кропелькамі расы
ў колерах вясёлкі
сярод чырвані кветак.

Жыццё блізкае ці далёкае.
Каханая старонка,
наканаваная.

### Мелодыя

Чую музыку
з глыбі сэрца і душы.
Чую музыку
здалёк, адтуль, там дзе
ёсць мой дом.
Далёка над рэчкай
дрэвы і кусты,
брукаваная дарога.
Дарога мая, дзе я хадзіла босай
нагой.
Хадзіла ад бабулі да бабулі,
хадзіла аб бабулі да цёці.
Каханы край,
быў для мяне ў жыцці
як рай.
Лука,
там шчасця майго шукаю!

### Чорныя анёлы

Бегалі, ляталі,
яшчэ не адляцелі
чорныя анёлы.
Адыдуць у даль,
сярод успененых хваль.

Там мой дом.
Там цудоўная краіна.
Для іншых далёкая,
для мяне адзіная.

Тужу па блізкіх,
якіх ужо няма.
Малюся Богу.
Няхай уцячэ з майго жыцця
трывога!

### Краіна мараў

У даліне, над рчэкай
краіна мараў.
Краіна розных падзей
і лёсу.
І труд.
І мая дачка,
мой найпрыгожы цуд!

Краіна мараў.
Дзяцінства сцежкі.
Бегаю босай.
А цяпер вечарам лічу авечак.

Людзі стомленыя
і спрацаваныя.
Соль гэтай памежнай зямлі.

Штодзённа думаю
аб сваіх блізкіх.
Калісь мы елі
з аднае міскі!

Лука, вёска па-над рэчкаю.
Лука, мая Лука,
і не толькі яна!

### Гандзя

Мая каханая бабуля,
што сціраць мяне навучыла.
Усё сваё жыццё
нешчаслівай,
а можа была шчаслівай?
А можа так пакутавала,
бо такі лёс?
Хадзілі мы ў Бандары.
Яна мяне апранала.
Я ёй прыбіраннем
і любоўю дзякавала.
Я з ёю ходнікі сцірала,
над Нарвай сушыць раскладала.
Дзедку Івану
хамуты я рабіць памагала,
пасля ўсю кухню
венікам падмятала.
Вечарам малако ад Красулі
ў малачарню насіла.
З кожным паразмаўляла,
так мяне бабуля вучыла.
Мела бабуля гуз на шыі —
ад удару.
Мела цудоўную душу,
хаця поўную пакут.
Усё ў Ёй
было красой.

# ВАНЬКА СТАРАСЮКОЎ з Паўлаў



— Працаваў механікам: сялянскі гурток, СКР, сельскагаспадарчы кааператыў — шыльды мяняліся, а я ўсё на адным месцы і так рэнты дачакаўся, — кажа народжаны ў 1932 годзе ў Паўлах Іван Іванюк.

Паважаюць яго за дабрыню, прыстойнасць і розум. Хаця сам алкаголю не спажывае, за півам у краму адпраўляецца амаль штодня. Гэта пачастунак суседзям. Так складаецца, што немалы працэнт мужчынскай часткі аднавяскоўцаў хварэе алкагалізмам.

> Ванька Старасюк, так мяне называюць. Ведаеце чаму? За цара тут кожнаму давалі па два прозвішчы: адно дзяржаўнае, а другое царкоўнае. У 1922 г., калі бацькі вярнуліся з бежанства, прозвішча Старасюк ім забралі. Засталося толькі Іванюк.

Гэта было ў жніўні 1915 года. Баба ўспамінала, як у царкве бацюшка крычаў, што бабам цыцкі адрэжуць, а мужчынам нешта іншае. Так нагаварыў, што пакінулі свае гаспадаркі і паехалі.

У аддаленай на некалькі кіламетраў Трасцянцы ўбачылі за сабой зарыва пажару. Іх родная вёска гарэла.

— Вы едзьце, мы ўсё спалім, а немец з голаду здохне. Потым усё вам адбудуем, — гаварылі казакі. Выканалі толькі першую частку свайго абяцання.

— Прыехалі на канях з паходнямі, ад якіх хутка загараліся крытыя саломай паўлаўскія хаткі. Наша была моцная, дахоўкай крытая. Дзедаў брат працаваў чыгуначным кандуктарам. Нежанаты, бяздзетны, таму шмат грошай дзеду аддаваў, за якія той паставіў хату.

З вёскі не выехаў толькі Кірылка. Так доўга і неахвотна збіраўся ў дарогу, што ў Трасцянцы немец яго дагнаў і загадаў назад вяртацца. Па сёння існуе тут пагаворка „збіраецца быццам Кірылка".

— Больш расказваць не буду, іду дахаты, — падымаецца з вясковай лавачкі Іван.

— А цябе куды нясе? — пытаюць праязджаючую побач на ровары жанчыну.

— У Заблудаў. Пецяі Шымчукоў памёр.

— Вось як, — сур'ёзна расхваляваліся ўся лавачка. — Учора аднаго пахавалі, сёння другога. Ён жа 1952 года нараджэння, мог бы яшчэ пажыць.

— Вы ўсё-такі можа са мной яшчэ пасядзіце, — бягу за Іванам, — пасля будзе ўжо запозна.

— Заходзьце тады да мяне на панадворак, — неадкладна мяняе сваё рашэнне Іван, — кавай вас пачастую. Мая кава смачная, канадская, ад дачкі ў пасылцы атрымаў.

Яго бацька, Васіль, быў тады 9-гадовым малышом, але ўжо шмат разумеў. Так з бацькавага, як і з мамінага боку ўсе падаліся ў адным напрамку.

На воз закінулі драбіны, што сена вазіць, папрыбівалі выгнутыя жэрдкі, паабшывалі іх раднамі, плахтамі, чым хто меў і паехалі як цыганы. У Мінску коней ім пазабіралі, а вазы паклалі на кучу і падпалілі. Агонь пайшоў у неба. Акамянела бежанскае сэрца. Далей паехалі ўжо чыгункай.

— Дзед Конан, баба Параска, бацька Васіль, яго брат Аўрам, сястра Дар'я, маміны бацькі Барыс і Маланка Нікіфарукі, іх дзеці — Стэфан, Іван, Манька, Сенька, пятага ўжо не помню. Баба памерла па дарозе, у Барaнавічах, ад тыфу, яшчэ адна дачка, не ведаю як яе звалі, таксама там памерла.

Усе астатнія запыніліся ў Барысаглебскім уездзе Тамбоўскай вобласці. Жыццё было прыблізна такое, як і ў Паўлах. Цемната, забабоны, усёмагутныя бацюшкі і больш рэзкая чым у нас рэлігійнасць. Але трэба было падпарадкавацца, каб дзікарамі не абзывалі. Ніхто не ўспрымаў іх як сваіх, рускіх, толькі як бежанцаў. Нічога добрага там не навучыліся, не спазналі. Адна тамбоўская бяда. Жылі з тамтэйшай сям'ёй, якой дапамагалі ў гаспадарцы. Адзін пакой з кухняй, дзед, баба, жанаты сын, яго маленькія дзеткі і да гэтага яшчэ пяць душ бацькавай сям'і. Як ударыў тыф, бацька і яго сястра ляжалі ў хаце без памяці, а маленькі хлопчык гаспадароў пад радно ім залазіў, але не захварэў. За цара было яшчэ сяк-так, таму што выплачваў ён кампенсацыю. З надыходам рэвалюцыі ў тры дні прапала ўсё. Ні з'есці, ні адзецца. У галаве гудзела толькі адна думка: як мага хутчэй на радзіму.

— Некаторыя прабылі ў бежанстве тры гады, іншыя — сем, — сцвярджае Іван. — Частка вярнулася ўжо ў 1918 годзе. У Расіі рэвалюцыя, немец адыходзіць, надта спрыяльны момант, каб пераскочыць назад дахаты.

Зараз пачалася польска-бальшавіцкая вайна. Іванюкі не паспелі пакарыстацца спрыяльным момантам і чарговых пяць гадоў прагасцявалі ў таварыша Леніна.

Вярнуліся ў Паўлы, якія больш напаміналі ім Афрыку, чым Еўропу. Усё спалена, бесталкоўе. Пастухі ганялі кароў басанож па белай ад марозу траве. Прывезенымі ў мяшках царскімі грашыма можна было, хіба што, толькі печку напаліць.

Паявілася і іншая, мабыць самая страшная, бяда — баба Параска адурэла. Пайшла да Грыбоўшчыны каля Крынак. Ніколі з пустымі рукамі, заўсёды нешта з хаты выносіла.

У нядзелю рабіла, а ў аўторак святкавала. Тут жніво, а баба святкуе, таму што ў яе аўторак. Бярэцца за працу ў нядзелю, дык зноў сям'я не дазваляе.

Так ёй Дзед — Ілья Клімовіч — прыказаў. Ніякай божай сілы ён не меў, звычайны ашуканец. Шмат людзей яму паверыла. Некаторыя мужыкі ўжо жонак хацелі прывязваць, каб туды не ішлі. Сто кіламетраў у адзін бок пешшу. Меў таксама сваіх „карэспандэнтаў", якія прапаведавалі па вёсках: хочаш быць у раю, ідзі да Грыбоўшчыны. Адзін у лоб пальцам стукаў, а другі аддаваў усё, што было ў хаце. То грошы, то палатно, а потым сямейная рэвалюцыя была. Баба Параска выяву Дзеда, быццам ордэн, на грудзях насіла.

Аднойчы папрасіла мяне цвік забіць у сцяну, каб яго павесіць. Гляджу, а яна моліцца ды моліцца задам да нашых ікон, а перадам да Дзеда. У хаце не было тады падлогі, толькі гліняны ток. Баба ў тую гліну бух ды бух галавой. Б'е, б'е тыя паклоны і лезе Дзеда цалаваць. Мэблі ў хаце тады не было, адны драўляныя лавы. Дзед Конан ззаду падыдуць, дыму з папяроса ў губы набяруць і чакаюць. Як толькі яна ўлезе на лаву цалаваць, той дымам на Дзеда хукне і кажа: „Старая, хутчэй цалуй, бо ўжо Дзед на неба адыходзіць". Падурэлі таксама некаторыя мужыкі. Мамін дзядзька з Канюкоў надта багаты быў, млын меў, вятрак. Нехта гэты вятрак яму спаліў, за што атрымаў 3 тысячы кампенсацыі. 30 кароў за гэта можна было купіць, а ён усё да Грыбоўшчыны павёз.

У 1939 г. дабраліся да іх саветы. Дзеда Ілью вывезлі ў Расію, але гэтае карэнне не гінула, трымалася далей, без Дзеда. Пачалі ставіць царкву ў Целушках, збірацца па хатах. У Паўлах маліліся ў адзінокай бабы, якой сястру з мужыком на Сібір вывезлі. Потым немцы іх арыштавалі, каля 36 людзей, у тым ліку бабу Параску. Солтыс дахаты прыйшоў і кажа: «Васіль, калі хочаш мець матку, бяры пеўня і едзем да камісара». Маці паклала пеўня ў кошык, абвязала фартухом і аддала бацьку. Той, паехаўшы з петухом, вярнуўся з бабай Параскай. Святыя, якіх пеўнямі не павыкуплялі, 6 тыдняў сена сушылі ў Кнышыне. Потым зноў саветы прыйшлі, але маліцца ўжо не забаранялі. Святых збіралася штораз менш, адляталі яны, адляталі ажно зусім на той свет адляцелі. Бабу Параску пахавалі як трэба, з бацюшкам і выявай грыбоўскага Дзеда, быццам ордэнам, на грудзях.

Вось такія гісторыі Ванькі Старасюковага з Паўлаў.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Былі ў Нараўцы яўрэі

## Размова з Кацярынай БЯЛЯЎСКАЙ, даследчыцай нараўчанскай мінуўшчыны.

**— Вы займаецеся вывучэннем гісторыі нараўчанскіх жыдоў. Што прывяло Вас да зацікаўлення людзьмі, якія далі штуршок гаспадарчаму развіццю Нараўкі і вывелі яе ў ранг мястэчка?**

— Гэта праўда, што жыды далі Нараўцы гаспадарчы размах і да вайны яна была мястэчкам, гэтак званым штэтлам. Да вайны было ў нашай краіне шмат такіх штэтлаў. Чаму я зацікавілася яўрэйскай культурай? Шмат людзей ставіць мне гэтае пытанне, асабліва калі я ўдзельнічаю ў розных сустрэчах і канферэнцыях; асабліва ў Варшаве паяўляецца гэтае пытанне. Мой адказ вельмі просты — гэтым зацікаўленнем запалонілі мяне мае бабуля з дзедам, Марыя і Аляксандр Раманчукі. Яны, калі яшчэ жылі, увесь час расказвалі пра нараўчанскіх яўрэяў. Іхнія апавяданні мне, як дзіцяці, былі нечым незвычайным. Яны называлі імёны і прозвішчы людзей, якіх ужо няма, якія нам цяпер здаюцца экзатычнымі, напрыклад Сара, Нахтуль, Моўшка Юдэйла... Мне гэта было свайго роду казкай. Бабуля з дзядулем расказвалі, чым тыя людзі займаліся. Больш: дзед паказваў мне хату па хаце ў Нараўцы і гаварыў, дзе хто жыў, як называліся тыя людзі, чым займаліся. Той меў карчму, іншы краму, нехта меў чайную, нехта быў кавалём... Гэтае вялізнае інфармацыйнае багацце, перададзенае мне як дзіцяці, замацавалася ў маёй памяці. І калі я стала сталець і, ідучы да дзядоў у Гушчэвіну і мінаючы кіркут, я ўжо ведала, што гэта за месца, бо і пра яго мне дзяды расказвалі. А паколькі ўжо ў школе я цікавілася гісторыяй, пасля і ў час штудыяў, таксама з гістарычным ухілам, я стала ўсур'ёз цікавіцца культурай і абраднасцю нараўчанскіх і навакольных жыдоў. І так пайшло.



Брацкая магіла расстраляных нараўчанскіх жыдоў каля Забалотчыны. Пададзеная на ёй інфармацыя спрэчная: паводле сведкаў забойства адбылося 15 жніўня. Паводле гістарычных крыніц, там на месцы забіты былі 282 мужчыны звыш шаснаццаці гадоў, а 259 жанчын і 162 дзяцей былі вывезены ў кобрынскае гета

Мае дзяды вельмі добра ўспаміналі жыдоў, падкрэслівалі, што вельмі добра з імі жылося, заўсёды можна было купіць у іх у крэдыт, калі нават не было грошай, яны ведалі кожнага тут чалавека і гаварылі: „Бяры, бяры, мы знаем, што ты добры чалавек, ты робіш у лесе, ты за месяц будзеш мець выплату і тады заплаціш". Да вайны людзі тут жылі вельмі згодна. І тое маё зацікаўленне было вельмі натуральнае, бо часта, калі я бываю на канферэнцыях, даведваюся, што большасць людзей, якія заняліся жыдоўскай культурай, гавораць, што на гэты шлях навёў іх бунт, што яны адкрылі ў сваёй мясцовасці запушчаныя могілкі, альбо нейкі занепадаючы будынак, у якім была сінагога, альбо марнее нейкі гістарычны помнік яўрэйскай культуры. І вось з'яўляецца такі бунт у сучасных людзей, што тое занядбанае трэба захаваць, і яны загараюцца да тае справы. А калі я гавару, што выводжу сваё зацікаўленне ад дзядоў, што яно ў мяне натуральнае, калі чалавек гаворыць на іншай мове, моліцца ў іншым храме. Апавяданні дзядоў прывілі ў мяне станоўчае стаўленне да іншых, а да таго ж сама выводжуся з такога шматкультурнага месца. У Нараўцы да вайны былі чатыры храмы: каталіцкі і баптысцкі касцёлы, царква і сінагога; ну, цяпер асталося тры. І мяне не здзіўляе, што адзін чалавек такі, а другі іншы.

**— Калі жыды пачалі сяліцца ў Нараўцы і што іх сюды прыцягнула?**




Фрагмент успамінаў Леана Лейсана: „У прынцыпе хрысціяне і яўрэі ў Нараўцы жылі згодна, хаця змалку лёс мяне ўжо выпрабоўваў у перадвелікодны тыдзень. У той перыяд нашы хрысціянскія суседзі адносіліся да нас інакш, быццам мы раптоўна станавіліся іхнімі ворагамі. Нават мае гульнёвыя сябры люта нападалі на мяне. Яны кідалі ў мяне камянямі і зневажалі мянушкамі накшталт хрыстазабойцы. (...) На шчасце варожасць доўжылася толькі некалькі дзён у год, а ў агульнасці жыды і іншаверцы жылі мірна побач сябе".

— Жыдоўскае насельніцтва стала сюды наплываць на зломе XVIII і XIX стагоддзяў. У Нараўку прыцягнулі іх пошукі месца для свайго эканамічнага развіцця. Тут маглі засноўваць гандаль, займацца рамяством. Яны тут знайшлі нішу для сваёй актыўнасці. Бо ўжо на Захадзе прастора іхняй актыўнасці была насычана. Аднак гісторыкі яшчэ падкрэсліваюць, што важным фактарам былі тут міжнацыянальныя адносіны, тут быў добры грунт для пасялення. Калі яўрэі пабачылі, што тут каталікі і праваслаўныя жывуць згодна, дык і яны могуць далучыцца да гэтай грамадскасці.

**— А ўсё ж такі: што канкрэтна прыцягнула жыдоў сюды, чым тыя першыя пасяленцы заняліся?**

— Яны ўзяліся за гандаль, яны вялі ўсе крамы.

**— Мабыць яны ўзяліся і за гандаль драўнінай, бо тут былі для гэтага добрыя ўмовы...**

— Яны займаліся ўсім, апрача земляробства, бо заканадаўства не дазваляла ім набываць зямлю. Сёння цяжка паверыць, што ў такой Нараўцы былі такія крамы як чайная, рэстаран, піўны шынок, былі мануфактуры, магазіны тэкстыльных вырабаў, ну — усялякая ўсячына. І тартак быў, можа нават два.

**— Гэта было калісь-калісь. А ці хто з нараўчанскіх жыдоў выжыў у час галакосту? Ці ёсць у свеце нашчадкі нараўчанскіх яўрэяў?**

— Да вайны, у 1930-х гадах, сюды даходзілі ўжо інфармацыі пра навіслую над яўрэямі небяспеку, пра тое, што адбывалася ў той час у Германіі. Людзі верылі ім і не верылі. А яўрэйскі народ мабільны і калі ў каго была магчымасць, была недзе сям'я, асабліва ў Амерыцы, то яны ўжо рыхтаваліся. У 1936-1938 гадах шмат сем'яў таксама — не ўсе сямейнікі — выехала адгэтуль. І сёння нашчадкі тых, якім да вайны ўдалося выехаць з Нараўкі, наведваюць радзіму сваіх продкаў. Дыяспара нашчадкаў мясцовых жыдоў паказваецца, яны прыязджаюць сюды; хочуць, галоўным чынам, наведаць кіркут. Тут адбываюцца незвычайныя ў духовым сэнсе падзеі, калі наведвальнікі знаходзяць мацэвы сваіх продкаў. Напрыклад, сёлета пані Барбара Коцін прыехала з Нью-Йорка і ўдалося нам знайсці добра захаваную мацэву ейнай бабулі, якая памерла ў 1936 годзе. Некалькі гадоў таму пан Ізраіль Бірэнбаўм з Ізраіля прыехаў сюды ў рамках „Маршу жывых", прывозячы з сабою два аўтобусы вучняў; ён таксама знайшоў намагільнік свайго дзеда. Гэта вельмі кранаючыя моманты, калі яны і плачуць, і цешацца, моляцца, спяваюць. Гэта такі сентыментальны турызм у зямлю сваіх продкаў; яны адчуваюць гэтае наведванне так, быццам яны вярталіся дадому. І яны пакідаюць шмат інфармацыі пра тое, як тут жылі іх продкі; гэтыя інфармацыі пакінулі ім іхнія продкі. І расказваюць самыя станоўчыя рэчы пра жыццё тут, пра вялікую талерантнасць — тут усе жылі згодна. Пасля вайны справы выглядалі інакш, бо вайна дае свайго роду дазвол на ўсё. Але ўжо сённяшняе пакаленне зноў вяртаецца ў свет гуманнасці. Вось такі прыклад: здараецца, што людзі тэлефануюць мне, паведамляючы, што зносяць яны нейкі пастаўлены дзядамі хлеўчык і ў яго фундаментах знаходзяць жыдоўскі намагільнік. І сённяшнія ўнукі бачаць, што тое прымяненне намагільнікаў для будаўнічых мэт трэба выправіць, а намагільнікі трэба вярнуць на прызначанае ім месца. І ўжо некалькі такіх мацэваў былі вернуты на кіркут. Маладое пакаленне, якое выйшла адсюль, ужо думае інакш — што трэба шанаваць іншых, іхнюю духовую і культурную спадчыну.

**— А ці ў Нараўцы, апрача кіркута, асталася нейкая іншая жыдоўская матэрыяльная спадчына, напрыклад будынкі?**

— Так, напрыклад большасць драўляных будынкаў у Нараўцы, хаця тыя будынкі зараз выглядаюць іначай чым калісь. Напрыклад, вуліца Агародовая, якая даўней называлася Школьнай, ад хедара, жыдоўскай школы пры сінагозе. Агародовая вуліца, гэта такая жыдоўская *starówka*, якую прыязджаючыя жыды абавязкова наведваюць, глядзяць месца, дзе стаяла сінагога.

**— Ці многа жыдоў выехала з Нараўкі ў даваенны час?**

— Да вайны яўрэі складалі палову насельніцтва Нараўкі, значыць, было іх звыш паўтысячы чалавек. Калі ўвайшлі гітлераўцы, яны задумалі тут узорную экстэрмінацыю яўрэйскага насельніцтва. Нараўка была адным з першых штэтлаў, дзе быў выкананы галакост і чарговыя расправы мелі праходзіць паводле нараўчанскага ўзору. Да такой высновы дайшоў прафесар Конрад Квет з Аўстраліі, які займаецца галакостам на Крэсах; ён быў летась тут. Усіх мужчын, якім было больш чым шаснаццаць гадоў, фашысты пабілі каля вёскі Забалотчына 15 жніўня 1941 года. Гэта было ў свята Маці Божай Зельнай, у той час адбывалася набажэнства ў касцёле, жыдам загадалі кленчыць перад касцёлам...

**— Хто ім выкапаў магілу?**

— Праўдападобна мясцовыя пад дуламі аўтаматаў.

Яшчэ слоў пару хачу дадаць, як яўрэі трапляюць у Нараўку. Цяпер маем інтэрнэт. Некалькі гадоў таму была тут Джой Кестэнбаўм з Нью-Йорка, якая займаецца генеалогіяй і яна заснавала партал пра нараўчанскіх жыдоў. З таго часу звалілася на мяне лавіна ўсялякіх запытаў, людзі з усяго свету пішуць і звоняць мне. З Нараўкі быў, напрыклад, Леан Лейсан, які ў час вайны, яшчэ дзіцём, трапіў у Кракаў. Тут, у Нараўцы, быў шклозавод і было шмат спецыялістаў па выплаўцы шкла. А паколькі і ў Кракаве працавалі шклозаводы, дык ад нас выязджалі туды на работу. У гэтым ліку і сямейнікі пана Леана Лейсана выехалі ў Кракаў у канцы 1930-х гадоў і сталі на працу ў фабрыцы. Успыхнула вайна і яны напэўна загінулі б, калі б не Оскар Шындлер. Трапілі яны на яго завод і той хлапец, якому было няпоўных дзесяць гадоў, дзякуючы „Спіску Шындлера", выратаваўся. Ён пасля напісаў кнігу „Хлапец на драўлянай скрыні" (The Boy on the Wooden Box). Адкуль згадка пра драўляную скрыню? Леан у той час быў яшчэ дзіцём і, каб працаваць пры станку, яму падстаўлялі менавіта пад ногі драўляную скрыню... Гэта біяграфічная кніга і яе першыя раздзелы прысвечаны жыццю аўтара ў Нараўцы. Кніга адносіцца вельмі станоўча да нараўчанскага перыяду жыцця аўтара. Дарэчы, усе наведвальнікі, якія прыязджаюць у Нараўку па слядах сваіх продкаў, вельмі цёпла выказваюцца пра колішняе іх сужыццё з мясцовым аўтахтонным насельніцтвам.

**— Дзякую за змястоўную размову.**

Пытанні і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# У Мастаўлянах усталяваны помнік Кастусю Каліноўскаму

Беларускі нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі нарэшце ўшанаваны на роднай зямлі. У Мастаўлянах Гарадоцкай гміны стаіць помнік правадыру паўстання 1863-1864 гадоў на Беларусі і Літве.

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага 1838 года ў вёсцы Мастаўляны Гродзенскага павета (сёння Падляшскае ваяводства). Ён не толькі быў аўтарам тэкстаў у «Мужыцкай праўдзе», але таксама займаўся яе распаўсюджваннем. Ён асабіста, пераапрануўшыся ў вопратку мясцовага жыхара, наведваў розныя рэгіёны Гарадзеншчыны, вёў прапаганду сярод сялянства. «Мужыцкая праўда» ўжо з першага нумара заклікала да рэвалюцыйнага ўздыму. Каліноўскі абапіраўся на ідэю народнай, сялянскай рэвалюцыі.

Апрача самога зместу рэвалюцыйнай газеты, «Мужыцкая праўда» сведчыць пра тое, што Кастусь Каліноўскі з вялікім майстэрствам карыстаўся беларускай народнай мовай. Можна сказаць, што ён моцна паўплываў на далейшае развіццё ўсёй беларускай культуры і літаратуры. Кастусь Каліноўскі садзейнічаў паглыбленню ў літаратуры і мастацтве прынцыпаў рэалізму і народнасці, замацаванню высокіх ідэалаў барацьбы за свабоду.

Як падкрэсліваюць гісторыкі, паўстанне 1863 года ў тых умовах не мела шанцаў на перамогу. Аднак вельмі важным з'яўляецца тое, што дзякуючы яму маглі праявіцца мужнасць, рашучасць і самаахвярнасць многіх беларусаў у змаганні за волю і лепшую долю народа. Вядома, сярод іх, як сапраўдны нацыянальны герой, вылучыўся Кастусь Каліноўскі. Дзякуючы яго нацыянальна-культурнай дзейнасці, якая ператварылася ў палітычны рух, стала магчымай барацьба за дзяржаўнасць Беларусі.






Месцазнаходжанне і апошні псеўданім рэвалюцыянера былі выдадзены арыштаваным у Мінску здраднікам. У турме ў кляштары дамініканцаў, Кастусь Каліноўскі знайшоў у сабе сілы, каб звярнуцца да беларускага народа. Ён здолеў напісаць і перадаць на волю развітальныя «Пісьмы з-пад шыбеніцы» з апошнім запаветам свайму народу. Гэтыя радкі да сёння ўражваюць сваёй шчырасцю, заклапочанасцю аб лёсе народа і рэвалюцыі. У пісьмах, напісаных перад смерцю, Кастусь Каліноўскі надалей застаецца верны сваёй рэвалюцыйнай праграме, а беларускаму народу пакідае запавет здзейсніць мары, за якія ён змагаўся. Натхнёныя і шчымлівыя словы яго «Пісьмаў з-пад шыбеніцы» перараслі ў радкі верша «Марыська чарнаброва, галубка мая...», дзе цэласна злівалася пачуццё да каханай дзяўчыны з пачуццём любові да свайго народа, да Бацькаўшчыны.

Пакаранне Кастуся Каліноўскага адбылося 10 сакавіка 1864 года на Лукішскай плошчы ў Вільні. Помнік, якога аўтарам з'яўляецца Януш Талуць з Беластока, гэта своеасаблівы доказ, што беларусы Беласточчыны памятаюць пра свайго вялікага земляка. Як адзначыў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Гарадку Юрка Астапчук, такім чынам аддаецца гонар Кастусю Каліноўскаму:

— Гэта падтрымка памяці, якая ёсць у народзе. Вядома, будуць ім захапляцца людзі, і тыя, якія не ведаюць, хто такі Кастусь Каліноўскі, напэўна запытаюць, напэўна прачытаюць пра яго жыццё і даведаюцца. І праз гэта Кастусь Каліноўскі будзе жыць.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

---

Фальклорна-этнаграфічны і літаратурна-мастацкі альманах фалькларыстаў філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта

**http://www.almanah-dzmuhavec.narod.ru**

Літаратурныя альманахі — даволі цікавае чытво, бо яны з'яўляюцца свайго роду падагульненнем творчасці пісьменнікаў і паэтаў у тым ці іншым накірунку. У Беларусі папяровых літаратурных альманахаў не так ужо і многа, але, дзякуючы інтэрнэту, некаторыя з іх можна пабачыць у электроннай версіі. А для літаратараў гэта ўжо даволі многа значыць, бо дае магчымасць без асаблівых грашовых укладанняў пазнаёміць са сваёй творчасцю неабмежаванае кола чытачоў.

Да аднаго з такіх выключна электронных літаратурных альманахаў належыць „Дзьмухавец", які выдаюць супрацоўнікі і студэнты філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Акурат сёлета гэтаму выданню спаўняецца пяць гадоў — першы яго выпуск пабачыў віртуальны свет у верасні 2010 года. І з таго часу выйшла ўжо адзінаццаць нумароў.

Каб бліжэй пазнаёміцца з „Дзьмухаўцом", варта набраць на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://www.almanah-dzmuhavec.narod.ru**. Выгляд сайта-альманаха даволі неардынарны. На фоне вялікага дзьмухаўца месцяцца банэры-выйсці да кожнага нумара выдання. Прычым кожнае выйсце з'яўляецца малюнкам гэтай кветкі ў розных варыяцыях.

„Сваім электронным выданнем мы імкнемся зацікавіць шырокае кола карыстальнікаў інтэрнэта, найперш школьнікаў і студэнтаў, фальклорнай нацыянальнай спадчынай. Мы хочам паказаць, што фальклорная традыцыя неперарыўная, пакуль жывуць носьбіты фальклору, пакуль захоўваецца памяць пра таленавітых казачнікаў і спевакоў", — распавядаецца ў першым нумары „Дзьмухаўца" ў рубрыцы „Аб выданні". Адметна, што аўтары часопіса палічылі неабходным патлумачыць, чаму яны назвалі яго так, а не інакш.

„Назва нашага альманаха — „Дзьмухавец" — невыпадковая. З аднаго боку, мы хацелі ўзгадаць у чытачоў уражанне, якое пакідае аб сабе гэтая кветачка, асабліва калі яна з жоўта-сонечнай прыгажуні ператвараецца ў пяшчотна-белы лёгкі шарык, такі далікатны і недакранальны: павеў ветрыку — і паляцелі парасончыкі ў белы свет... З другога боку, кожны такі парасончык нясе ў сабе новае зерне, якое вясной народзіць новыя жоўта-сонечныя кветачкі. І так будзе зноў і зноў. Таму і мы спадзяемся праз альманах „развеяць" па свеце веды, якія з лёгкасцю ўспрымуцца, натхняць на творчасць, выклікаюць жаданне далучыцца да нацыянальнай фальклорнай спадчыны", — прыгожа распавядаюць стваральнікі часопіса, а дакладней яго рэдкалегія, прозвішчы супрацоўнікаў якой пазначаны вышэй прэзентацыйнага артыкула.

Дарэчы, рэдкалегія запрашае да супрацоўніцтва ўсіх жадаючых стаць аўтарамі наступных выданняў і кажа, што ў яе планах друкаванне аднаго-двух выпускаў альманаха ў год. Як паказала практыка, у першыя гады ў свет з'явілася нават па чатыры выпускі, а потым толькі па адным.

Практычна ў кожным нумары „Дзьмухаўца" можна прачытаць апавяданні, вершы, пераклады, літаратурную крытыку. Даволі цікавымі падаюцца студэнцкія вершыкі, прымеркаваныя да здачы іспытаў ці тыя, якія з'яўляюцца добрай насмешкай з абранай прафесіі фалькларыста.

Сярод адметнасцей электроннага альманаха — адсутнасць на сайце двухмоўных версій. І беларуская, і руская творы размешчаны ўперамешку.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА



Гады вырваныя з творчасці

## 115 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Дубоўкі

Беларускі паэт, мовазнавец, перакладнік і літаратурны крытык Уладзімір Дубоўка нарадзіўся 15 ліпеня 1990 г. у вёсцы Агароднікі Манькавіцкай воласці на Пастаўшчыне. Паходзіў з сям'і рабочага. У 1905-1912 гг. вучыўся ў Манькавіцкай пачатковай школе. Пазней паступіў у Мядзельскую вучэльню. У кастрычніку 1914 г. быў залічаны ў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю, якая ў сувязі з Першай сусветнай вайной была пераведзена ў Невель, што на Пскоўшчыне. У лютым 1918 г. завяршыў навучанне і пераехаў у Маскву, куды трыма гадамі раней перабралася яго сям'я. Стаў студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта, але з-за нястачы пасля двух месяцаў вучобы, каб дапамагчы бацькам, змушаны паехаць працаваць настаўнікам на Тульшчыну. З 1920 г. служыў у асобнай тэлеграфна-будаўнічай роце Чырвонай Арміі.

У 1921-ым пасля дэмабілізацыі працуе ў Народным камісарыяце асветы РСФСР метадыстам і інструктарам беларускіх школ і вучыцца ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя Брусава. У 1920-х гг. — адзін з вядучых беларускіх паэтаў незалежніцкай арыентацыі. Быў рэдактарам беларускага выдання «Веснік ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР», адначасна адказны сакратар прадстаўніцтва БССР пры Урадзе СССР. Быў асабіста знаёмы з расейскімі паэтамі Уладзімірам Маякоўскім і Сяргеем Ясеніным, супольна ўдзельнічаў з імі на асобных літаратурных сустрэчах і прыёмах.

У 1924 г. Дубоўка ўпершыню наведаў Мінск, пасля паехаў у Харкаў, дзе пазнаёміўся з украінскім паэтам Уладзімірам Сасюрам. Нягледзячы на тое, што стала жыў у Маскве, браў актыўны ўдзел у беларускім літаратурным руху — аб'яднаннях «Маладняк» і «Узвышша». Каб пазбегнуць цэнзуры, некаторыя вершы друкаваў у заходнебеларускім часопісе «Беларуская культура». У 1927 г. ажаніўся з Марыяй Кляўс. У наступным годзе нарадзіўся сын Альгерд.

За верш «За ўсе краі, за ўсе народы свету» у ліпені 1930 г. арыштаваны АДПУ СССР у Крамлі па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1931 г. быў зняволены ў мінскай турме, пазней асуджаны на пяць гадоў высылкі ў Яранск, куды прыязджае з малалетнім сынам і жонкай. Працуе ў Яранскім раённым спажывецкім саюзе на пасадзе сакратара. Прымусова пераязджае ў вёску Шэшурга, а пазней у цэнтр Чувашыі — Чабаксары.

У ліпені 1935 г. тэрмін высылкі падоўжаны на 2 гады. У 1937 г. паўторна арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі, пасля чаго жонка з сынам вяртаецца ў Маскву, а потым у Талдам, дзе працуе рахункаводам. Там у 1941 г. трагічна гіне трынаццацігадовы сын Альгерд. Зняволенне Дубоўка адбываў у Кіраўскай вобласці, Чувашыі, на Далёкім Усходзе. У турме практычна не пісаў. У 1947 г. пасля тэрміну зняволення паэт апынаецца ў Зугдідзі (Грузія), дзе працуе рахункаводам у канторы чайнага саўгаса Наразені. Туды ж пераязджае і жонка. У лютым 1949 г. арыштоўваецца трэці раз. МГБ СССР у красавіку засуджаны на 25 гадоў зняволення. Быў спачатку ў тбіліскай турме, потым этапаваны ў Краснаярскі край. Працаваў стаялерам у Почаце Абанскага раёна.

Рэабілітаваны ў 1957 г. Фактычна 27 гадоў не меў магчымасці пісаць. У 1959 г. наведаў Кіеў і падарожнічаў па Палессі. Стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962) за кнігу паэзіі «Палеская рапсодыя». Памёр Уладзімір Дубоўка 20 сакавіка 1976 г. у Маскве.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Сумнае, але праўдзівае...

На скрыжаванні вуліцы Вонскатаровай з Вішнёвай, на вышыні былой вадакачкі ў Чаромсе пракладзены вадасцёкавы канал. За гэты шлюз хадайнічалі ўладальнікі суседніх участкаў, паколькі ў час ліўняў іхняе поле затапляла вада. Паралельна да дарогі ў напрамку Кузавы пракапаны быў асушальны роў. Згаданая ўстаноўка выконвала сваю ролю адно ў першых пачатках. Тады дажджавая вада ручайком сплывала ў рэчку Нурэц. Зараз роў зарастае буйным пустазеллем. Ніхто пра яго не дбае. І тут праблема. Паколькі шлюз не абазначаны дарожнымі калонкамі, дык стварае пагрозу выпадку. На гэтым адрэзку знаходзяцца два крутыя павароты. Не цяжка апынуцца ў прыдарожнай канаве. Асабліва ў час галалёдзіцы або дажджавога надвор'я, калі асфальтоўка становіцца коўзкай. Аб праблеме гаварылася на кузаўскім вясковым сходзе ў лютым 2013 года (пісала «Ніва» ў 27 нумары ад 7 ліпеня 2013г. — «Ці ўладам патрэбны фактар?»). У гэтай жа справе 21 чэрвеня я правёў размову з тадышнім наменнікам войта Ірынеем Леанюком. У маёй прысутнасці начальнік патэлефанаваў кіраўніку Павятовага праўлення дарог у Гайнаўцы. Спадарыня Крыстына Мішчук, нотабена чарамшанка, абяцала пацікавіцца справай, калі будзе ехаць на рыбалку. Ніхто пальцам не варухнуў. Прайшло лета. Спадарыня кіраўнік Павятовага праўлення дарог або забылася аб размове, або рашыла, што не бачыць праблемы.

Аб справе асушальнага рова на вуліцы Вішнёвай я напамінаў спадару Леанюку восенню, затым пісаў у допісе «Быццам гарохам аб сценку» (у 46 нумары «Нівы» ад 17 лістапада 2013 года). Праблема па сённяшні дзень застаецца нявырашанай. Змянілася кіраўніцтва чаромхаўскага самаўрада. Аб безгаспадарным шлюзе я завёў гаворку ў пятніцу 10 ліпеня г.г. з упраўляючым кіраўніком камунальнай гаспадаркі Альжбетай Попка. Субяседніца сказала: «Мы пашлем службовае пісьмо ў Гайнаўку. Але было б добра, каб такая заява паступіла ад жыхароў вёскі. Сяляне больш верагодныя».

Вось, даражэнькія, як да службовых абавязкаў ставяцца самаўрадавыя чынушы. Сумнае, але праўдзівае...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Вечарына памяці Тамары Саланевіч

18 ліпеня гэтага года ў Гміннай галерэі ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбудзецца сустрэча, прысвечаная памяці нараўчанкі Тамары Саланевіч (з нагоды 15-й гадавіны смерці кінарэжысёркі). У праграме, між іншым, дэманстрацыя кінафільмаў «Тамара» і «Жэртва» (гэты другі Т. Саланевіч) ды музычны канцэрт.

На юбілейнае мерапрыемства запрашаюць Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы.

Пачатак сустрэчы а гадзіне 19-й. **(яц)**





## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. супраціў, забарона = 9 _ 10 _ 1 _ 2 _;
2. частка рукі ад запясця да канца пальцаў = 36 _ 39 _ 38 _ 40 _ 41 _;
3. лясная афрыканская антылопа (*kudu*) = 11 _ 35 _ 14 _ 15 _;
4. травяністая расліна завершаная макаўкай = 16 _ 17 _ 27 _;
5. каламутная вадкасць = 20 _ 21 _ 24 _ 25 _;
6. самка паўліна = 12 _ 13 _ 32 _ 8 _;
7. урачысты дадатак да хлеба = 22 _ 33 _ 7 _ 19 _;
8. уяўленне, вобраз = 37 _ 31 _ 29 _ 30 _;
9. хвойнае вечназялёнае дрэва ў... націску = 18 _ 23 _ 28 _;
10. удушлівы газ, вокіс вугляроду = 5 _ 6 _ 3 _;
11. між галавою і тулавам = 34 _ 4 _ 26 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | | | | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | 26 | 27 | | | | | | | |
| | | | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |
| | | | | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

### Адказ на адгаданку з 26 нумара

Рыбалоў, еўра, пяць, канец, цела, Амаці, зрок, Ліў, апрычнік, шлюз, пані, падрыў, лад, меса, вета, яна, кобра, місіянер, папараць, спеў, Агняцвет.

Рашэнне: **Як быў цар і царыца, не радзіла пшаніца; пры ўладзе саветаў яна корміць паўсвета**.

## 19.07 — 25.07

**(22.03. — 20.04.)** Будуць больш клапаціцца табою блізкія. Ацані належным чынам гэта, а не злуйся. Акружайся жанчынамі, сустракайся з імі. Добры час на змену абсталявання кватэры, куплю чагосьці новага для яе інтэр'ера або нават новага жылля. Не паўтарай неправераных інфармацый, якія акажуцца звычайнай плёткай; можа гэта папсаваць твае адносіны з кіраўніцтвам. Збірайся выстартаваць з новымі задумамі на працы. З 23.07. магчымыя сямейныя праблемы.

**(21.04. — 21.05.)** Дбай аб свае патрэбы ў пары. Але будзеш кіпучы, у кожную хвіліну гатовы выбухнуць невядома з-за чаго, прыдзірлівы, гатовы шукаць благіх рысаў і недастаткаў у іншых. У сям'і паявяцца важныя справы для вырашэння, адміністрацыйныя ці пытанні датычныя старых канфліктаў — калі трэба, прасі пры тым дапамогі, бо можаш падвергнуцца сур'ёзным стратам або працяглым праблемам (асабліва з 23.07. да 27.07.).

**(22.05. — 22.06.)** 20-24.07. варта слухаць парад і адкрыцца на тое, што кажуць іншыя. Вельмі добра дагаворышся таксама з шэфам і можаш разлічваць на павышэнне. Але 17-21.07. непаразуменне з сябрам можа вывесці цябе з раўнавагі. Калі ты пазнаёмішся з кімсьці цікавым, прысвяці яму больш увагі — гэта хтосьці таго варты. Дбай аб сваё сэрца.

**(23.06. — 23.07.)** 20-24.07. будзеш мець пачуццё бяспекі, спакою. З 23.07. могуць пачацца цяжкасці ў адносінах з іншымі. Можаш пазнаёміцца з нясмелай асобай — варта за яе пазмагацца. На працы будзеш творчы і кемлівы. Някепска было б парваць кантакты з асобамі, якія цябе ў мінулым падвялі. Пачні практыкаваць штодзённую гімнастыку — увойдзе табе гэта ў кроў.

**(24.07. — 23.08.)** З 23.07. станеш больш прадпрымальным. Творча падыдзеш да вырашэння праблем. Разлічвай на сардэчныя кантакты з сябрамі. Здароўе добрае, але не пазбегнеш эмацыйных напружанняў. Будзь вельмі асцярожным, каб не падвергнуцца кантузіі. 24-26.07. не аб'ядайся.

**(24.08. — 23.09.)** 19-31.07. прыемнасці і адкрыццё на новыя магчымасці. Павінна паправіцца ў тваіх фінансах. А ў сэрцы — вясна! Да 23.07. пераканаешся, што ўсё тое, што ты перажыў — не дарма. Прытармазі сваю шчодрасць і ўсёдаравальнасць. Таксама не перанатужвайся, асабліва калі ты пасля хваробы.

**(24.09. — 23.10.)** Пазбегнеш памылак і зробіш разумныя выбары. Варта пачаць штосьці новае, а перш за ўсё адмежавацца ад мінулага. З 24.07. не пачынай дзеянняў, якія лучацца з вялікай рызыкай, бо не пазбегнеш складанасцей.

**(24.10. — 22.11.)** Многа энергіі і сілы, пазітыўнага пабуджэння. Прыхарошвайся, сядзь на дыету. Выходзь да людзей. Дома сціхнуць спрэчкі, а іх месца зоймуць зразуменне і павага. Знаёмыя будуць добрымі дарадчыкамі, асабліва ва ўстановах. Трапна параяць асабліва тыя, на каго ты ўжо не разлічваў. Добры момант, каб дараваць камусь, хто табе зрабіў прыкрасць, а цяпер хоча прасіць у цябе прабачэння.

**(23.11. — 22.12.)** У Стральцоў, што лечаць раны пасля няўдалага прыцэлу, пасля 24.07. наступіць пералом — залепіце раны ў сэрцы і адчуеце сваю каштоўнасць. Адкрыецеся на свет. Добры час на фізічную актыўнасць, на медычныя працэдуры. На рабоце працуй сумленна. Доўгачасовых планаў пакуль не рабі (з 23.07.).

**(23.12. — 20.01.)** 20-24.07. — час на важныя рашэнні; зрэалізуеш амбіцыі і пераможаш перашкоды. З 24.07. здзяйсняй абяцанае партнёру, бо перастане табе давяраць. Сур'ёзную справу ва ўстановах пачні рэалізаваць з 23 (да 26) ліпеня. Асабліва Казярогу народжанаму 4-10.01. паспрыяюць у гэтым зоркі.

**(21.01. — 19.02.)** У разладжанай пары пасля 23.07. усё зладзіцца, дасце сабе новыя шанцы. Калі будзеш патрабаваць дапамогі, звярніся па яе да старэйшых жанчын з твайго атачэння — яны знойдуць вырашэнне ўсялякіх праблем. Не бяры пазык — крэдыт дастаў бы, але ў будучыні меў бы з-за яго сур'ёзныя праблемы. З 23.07. старайся не спрачацца.

**(20.02. — 21.03.)** Больш вітальных сіл, што можаш выкарыстаць м.інш. на заданні патрабуючыя высілку. Замужнія і жанатыя Рыбы развяжуць нейкія працяглыя спрэчкі. Усе рашэнні пра расставанне, жаніцьбу ці павелічэнне сям'і добра абдумайце. Вельмі дбайце аб сваю дыету — каб хутка не патаўсцець. Хтосьці зайздросны за твае поспехі можа адкрыта выступіць супраць цябе (23-27.07.). Ад 24.07. не адкідвай ахвяраванай табе дапамогі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1000 egz.

Марыя Сашка

# Аднойчы ў Венецыі (ч.III)

Закрывалі пасяджэнне ўрачыста, паўгарада прыйшло, сем'ямі цэлымі...

— Давайце гурбою і пойдзем, усе ўраз, да Святога Марка, былі мы там, але ў архівах абяцалі нам яшчэ расказаць пра старынныя іконы, даўнія... Памятаеце? Ключы вашы — гэтак і гэтак, ключ і кольца, выходзіце — вяртайцеся і позна, але гэта кольца — сігнал, перад выхадам павесьце на свой нумар ля дзвярэй, гэта звестка для садоўніка-фуртыяна — не ўсе вярнуліся, варот — хоць да ранку — на ўсе мацакі ён закрываць не будзе; не павесіце — будзеце на вуліцы, як учора егіпцяне — ледзь уначы гатэль свабодны знайшлі — кольцаў не павесілі, вароты былі закрыты!..

Пайшлі ўсе радаснай кампаніяй, вароты былі наўсцяж адкрыты, уваходзь — выходзь, не было відна, каб хто кольцы вешаў: вяртаюцца? Забыліся? Piazza San Marco, красавішча! Народзішчу! Цяплынь наўкругі!.. Даніэль у лёгкай сукенцы, як усе тут, з лёгкай безрукаўкай-святрынкай у руках, з торбай...

Якая краса гэты San Marco, сабор-базіліка непаўторнай купалападобнай каляровай архітэктуры, з візантыйскімі фрэскамі, іканастасамі! Вось, іконы ў сховішчы, які гэта век? 14-15-16? Спас Нерукатворны, Прасвятой Багародзіцы Прачыстай Нараджэнне; а тут — анёлы, вось, светлыя — я-с-н-ы-я! Сабор цэлы акружае Спаса Хрыста — колькі красы-цеплаты ў іконе гэтай!.. Даніэль не магла адарваць вачэй! Чаму не хаваюць у сховішчы-закрыцці — народ бы ёю бласлаўляць! Што 16 век? Што яна з Канстанцінопаля? Уплывы Візантыі ж былі тут вялікія — калі не велічныя — і ў час 8-18 стагоддзя незалежнай Венецыі-рэспублікі (на ўзор грэчаскіх «polis»-гарадоў), якой кіраваў князь-дожа; тады венэты — так яны сябе называлі — кантралявалі ўсходнюю часціну Міжземнага мора, Адрыятыку, Эгейскія астравы, Крыт, Кіпр, Корфу і іншыя, меншыя тэрыторыі...

І цяпер ёсць спробы тут адарваціа ад Італіі... Даніэль прыпомніла — чаму якраз ёй далі ў 80-х гадах тут плакетку-наклейку з надпісам «Свабоду для венэтаў — Свабоду для палякаў!», на вуліцы, каля Сан-Марка, ніхто ж не ведаў з гэтых хлопцаў, што яна з Варшавы!..

Ікона — Сабор Ангелаў і Усіх Сіл Нябесных; іх там — Даніэль палічыла — было амаль трыццаць. Арханґелы Міхаіл, Гаўрыіл і Рафаіл трымаюць медальён-энкальпіён з паўпостаццю Хрыста Эмануіла (што ёсць сказуема: «З намі Бог»). Перад Спасам адкрыта Святое Евангелле, са словамі Евангеліста Лукі 10, 18: «Видех сатану ако молнию с небес спадша»; гэта каментарый да стаўшагася: у ног Спасавых і Ангельскіх — скінуты з нябёс шайтан са сваімі слугамі-дыяваламі...

Лікі Ангельскія — светлыя, ласкавыя, з нейкай, нават, як бы радаснай усмешкай — Добрай Звесткай п-р-а Госпада Спаса Ісуса, Які хоць і бессмяротны а ўміраў на Крыжы — як чалавек — уваскрэс, хаця зышоў у гроб, але перамог і паканаў сілу сатанінскую, пякельную, Якому — Пераможцы смерці — Царква спявае: «Лик Святых Ангел и Архангел, со всеми Небесными Силами, поет Тя и глаголет: Свят. Свят, Свят Господь Саваоф, исполны небо и земля славы Твоея» — «Воскресение Твое, Христе Спасе, Ангели поют не небесех, и нас на земли сподоби чистым сердцем Тебе славити» — «Христос воскресе из мертвых, смертию смерть поправ, и сущим во гробех живот даровав!»...

— Даніэль, вяртаешся з намі? — спыталі яе. — Не, прайдуся, пахаджу, пасяджу, я еду паслязаўтра, у Парыж, да бабулі і дзедуся, там яны ў нас... Сонца заходзіць, гляньце, краса якая!..

— Вось табе, бабка Валерця, і карты твае, і твой бландзін высокі, кароль мой-царэвіч суджаны!.. Праўда, бачыла я тут такога ангела дня якогась, але ён ішоў як бы ўкрадкам, не падыходзіў, гаварыў з кімсьці, глядзеў нейк «праз мяне», увысь; праўда, ён высачэзны, гара, таму можа мне здавалася, што ён у даль, не на мяне, глядзеў... Бабуля-цятуля, рыцар мой сюды, відаць, не даехаў, і запаху яго ў Венецыі не чуваць, ні то яго фігуры бачыць, як ты казала!.. Выходзіць, такое спатканне мы на Парыж пакінем, хаця ты, бабулька, казала мне пра воды, лодкі, сэрэнады!..

І тут яна пачула за сабой: — Bonsoir, Mademoiselle Danielle!.. Яна павярнулася: т-о-й, з плошчы з-пад Grand Hotel Excelsior!.. Успомніла: ён быў учора і пры Chiesa di San Pietro, раней, дня якогась, стаяў і пры Madonna dell' Orto!.. Ну, так, гэта ён хадзіў то за намі, то перад намі, абмінаў, ё-н ж-а! Калі мы выйшлі сёння з нашага палаца на Fondemento Cappucine; быў пры Angelo Rafaelle (але ж, наша гід-італьянка яшчэ сказала: д-в-а Рафаілы з намі, гляньце — сабор і гэты вось, велікан — як Самсон біблейскі з заваражваючымі валасамі — снапом пшанічным на паўплячэй! (Даніэль якраз загаварылася з іспанцамі, потым аглянулася — хлопец знік, відаць, скрыўся ў саборы... Так, так, яна была зноў яго ўбачыла — стаяў пры іканастасе ў San Marco... Адкуль ён такі, як анёл светлы, з усмешкай, галавой нейкай сонечнай, палявой... Яна яшчэ тады ледзь голасна не ўскрыкнула: «Alors vive le soleil!», пэўна, хай заўсёды будзе сонца!..

— Вы як?... Я... Адкуль імя маё?... — толькі і хапіла ў яе сілы сказаць гэтыя некалькі гукаў, па-французску. З-а-х-в-а-л-я-в-а-л-а-с-я, ну так, усе гэтыя дні ён жа быў заўсёды на вуліцах з ёю п-о-б-а-ч!..

— А я за вамі хаджу ўжо цэлы тыдзень, — працягваў ён. — Comme c'est interesant — votre archeologie, icons, cathedrales... Я ўсё за вамі, праўда, здалёк, наўкругі ж вас то французы — то арабы — то грэкі — егіпцяне: Поль, Жан, Эт'ен, якісь Германос і Андрэас былі ў суботу, а ўчора і сёння: Ганзалес і Філіп; як да вас даступіцца, вас на крок не пакідае ваша гвардыя, вучоныя карабінеры!.. Я чуў амаль усе вашы размовы, пэўна — ведаю: непрыгожа слухаць чужое, але як да вас дапхацца?.. А цяпер — можна тут з вамі сесці? Giardinetti Reali — гэта і той мілы-любімы садзік!.. Ой, вечарэе ўжо, будзе вам холадна, пазвольце, у пляцаку мой світар, вялікі ды тоўсты, вам як паліто будзе, сагрэецеся, вось!..

— І што вы са мною робіце, мілая Мадмуазель? Зусім галаву згубіў, я ж і не прадставіўся, абармот! Je m' appele Olavi Kuusela, я з фінскага роду — таму такі белы, а што вялікі — дык гэта ў татку пайшоў, ён у нас камандуе караблём-паромам на Балтыцы... — Давайце, з'ямо нешта, я сёння з воўчым апетытам, сядзем тут вось, хай апошняе сонца на вас свеціць, а я на вас глядзець буду, і ніхто мне вас не заслоніць, не закрые-схавае, пільнаваць буду, каб не ўцяклі, не зніклі як у гэтыя мінулыя дні!..

Даніэль усміхнулася: — Не ўцяку, у вашым світары? У мой Парыж? (увесь час яны гаварылі па-французску то праўда, але чаму яна сказала «мой Парыж»? М-о-й? Не сказала праўды пра Варшаву? Гэтак што значыць — па-дзявочаму? — пабачым наперад: хто ты такі? Ну, хай будзе і так. Хаця ўсё было б іншым, як у канцы выяснілася! — Ну: колькі тут «няпраўды»? — яна ж сапраўды едзе ў Парыж, а што — ён «не свой»? — там жа бабуся і дзядусь! Бацькі папіны!... Ну, словамі, сон якісьці тут! Ой, бабуля Валерця, што ты навычварала са сваімі картамі, начмуціла, начаравала!..)...

Аляві замоўк, перастаў есці. Даніэль сказала: — Стынуць вашы катлеты, казалі — галодны! Я нікуды не схавалася, паверце, мне з вамі вельмі прыемна!.. Ежма, а потым, Аляві, давайце ў гандолу ці вапарэта, га?.. Яна глядзела на яго і ўнутры сабе гаварыла: — Які ён цудоўны, гэты хлопец, праўда ж? Гэтак з'явіўся аднекуль, з неба? Але-але ж — пастойце, адзін анёл на іконе ў саборы — запомніла! — ё-н, цэлы час думала: д-з-е я гэтага пасланца неба-весніка бачыла? Т-а-к! На іконе і пры саборы Рафаіла с-т-а-я-ў т-а-к-і ж, ж-ы-в-ы архангел! Тады яна з іспанцамі затараторылася; ён ж-ы-в-ы-м глядзеў на яе! Я была нават рушыла да яго, скончыўшы размову, але ён недзе ўраз знік, я падумала: у сабор увайшоў, не знайду яго там, мо выйдзе зараз?..

— Аляві, або вы ясце, або я голасна крычаць буду! Мне адной не выпадае! Чуеце?.. Ці вас карміць, з лыжачкі-відэльца?..

Даніэль зноў сабе сказала: — Ну, што за горад чараў-мараў — гэтая Венецыя! Вось — сядзіць са мной белазубы велікан, з ўсмешкай на ўсю шыр твару, адкуль мне такое — няўжо ад бабці Валерці?..

— Аляві, у Хельсінкі ўсе такія велічныя? І што значыць ваша імя? А-л-я-в-і — амаль як па-англійску Ай-Ляў-Ю? Вам казалі пра гэта? — «я люблю-кахаю вас» — гаварылі?.. — Не, сказаў ён, — ніхто сур'ёзна г-э-т-а-к мне не сказаў дасюль!.. (унутры сябе і ён падумаў: чаму я «ў-с-я-г-о» не гавару — не прызнаюся? Можа на потым?).

— Я, Аляві — Ай-Ляў-Ю, па ўсяму, ад маёй цёткі парыжанкі, вялікай кінаактрысы Danielle Darrieaux, імя і прозвішча такое ж; яна з прошлых, даўніх часоў Жэрар Філіпа, Мішэль Марган, Інгрыд Бергман, Жана Габена, гэта 50-я гады не такія даўнія, яна была ж і Mme de Renal у «Чырвоным і чорным», дзе Жэрар іграў Сарэля... Многа і ў яго было чароўных фільмаў!..

— Mademoiselle Darrieaux, маё імя ад рускага «Алег», мой дарагі дзядусь Алег з рускіх, і бабуся Дарафея, яны ў Хельсінкі, дзядусь — праваслаўным бацюшкам ва Успенскім саборы (вы бывалі ў Фінляндыі? Паедзеце калі-небудзь са мною?). Вы напэўна многа чаго ведаеце пра Праваслаўе, раз вы яшчэ і археолаг?

— Не, не ведаю і нічога не чула! — засмялася Даніэль голасна (каб ты, хлопча, ведаў, што я ў варшаўскім саборы спяваю, што сказаў бы?.. — Ну, вось, а далей маўчанне — няпраўда! А мо сказаць? Але чаго тады пра «мой Парыж» апавясціла?).

— Хельсінкі! — неспадзявана нейк і для сябе самой сказала дзяўчына, а мо гэта не я-н-а? Хто тады ў ёй? Душа, сэрца?).

— Давайце, «на брудэршафт», чаго мы тут «Вы-ка-ем-ся»? Раз вы ведаеце, што я археолаг і нават пра Праваслаўе знаю!..

— Ведаю, а я не сказаў вам, што я піяніст, іграю ў філармоніі? Не гаварыў? Зусім апраставалосіўся! Пры вас і словы забываю!..Знаёмімся, значыць, па правілах, з пацалункам? Cher ami? — А вы не хочаце? — засмяялася Даніэль. — Я магу толькі крычаць ад радасці: — Je suis enchante! Quelle bonheur! J'em suis charme! Que je suis heureux! Que je suis content! Merci-merci bien! V-o-l-o-n-t-i-e-r-s! (я рады, шчаслівы, дзякую сардэчна, з ахвотай!)...

Яны ўсталі... — Слухайце, Ай-Ляў-Ю, не такая я ўжо пры вас і малая, а? Ну, праўда, я ў вашым даўжэзным світары? Вам — т-а-б-е — вышэні колькі, два метры? Два пяць? Б-р-а-в-а!.. — Немалая я ўсё ж такі! Туфлі высокія куплю!..

Яны пацалаваліся... У губы, шчыра, доўга, сардэчна, п-р-а-г-н-а, жадасна!... Аляві перакінуў сваё віно... Хай будзе на шчасце!.. Даніэль сказала сабе: — Ah! Que de mervilles Venice est vraiment uneville magnifique! — Праўда, дзе іншы такі цудоўны горад? Парыж, Санкт-Пецярбург?.. Галава круціцца... Віно, хлопец, пацалунак!.. Усё ўверх дном — то д-з-я-ў-ч-ы-н-а прапануе цалаванне, а хлопец — колькі радасці нагаварыў! І які хлопец! Так-так! Спаткаліся, а як расстацца? І што значыць «прасціцца»? І хто с-к-а-з-а-ў — «бывайце!..», «бывайце» — значыць: «б-у-д-з-ь-ц-е!», прыходзьце, бывайце-прыязджайце, і н-е а-д'-я-з-дж-а-й-ц-е, ніколі!.. Калі прызнацца, Даніэль, што Парыж гэта для сям'і, а штодзень — Варшава, усё ж бліжэй Фінляндыі! А Аляві, калі ж ты скажаш, што тожа «не ўсё так»?.. Наплёталі вы, моладзь! Ну так «сказалі», выйшла — нехаця — трохі з таемнасцю-чароўнасцю!.. Якая ж розніца, хто — адкуль, няўжо гэта наўкругі і тут, і цяпер ужо не бачна, што іх вочы пойдуць за сабой у які горад абое захочуць, хоць у Кітай к-а-т-а-й, абы разам!..

Яны ездзілі па каналах, гандальеры спявалі ім песні, гаварылі: «цалуйцеся, што вы, ніхто не бачыць!». Яны хадзілі па вуліцах, абняўшыся, баючыся што іх раздзеляць!.. Сядзелі, адпачывалі, зноў хадзілі, зноў нешта елі, гаварылі. Расказвалі, смяяліся!.. Ш-ч-а-с-л-і-в-ы-я!!!

— Аляві, золатка, па коням! Трэба ісці дамоў, бо, як кажуць — людзі ноч разбяруць!.. Ты заўтра ад'язджаеш, я паслязаўтра, твой тэлефон маю, ты — мой! Дзе прапануеш спатканне: у Хельсінкі ці Парыжы, ці недзе — пасярэдзіне: у Варшаве, у Празе?..

Яны ішлі цераз Strada Nuova, Fondamenta Ormesini, вось і яе Cappuccine... Маўчалі, абняліся, доўга стаялі, а-б-о-е НЕ хацелі разлучацца!.. Будзем?.. Б-у-д-з-е-м! Памятаць, званіць, тужыць, к-а-х-а-ц-ь!..

Даніэль зняла світар Аляві, сягнула рукой у торбу... А-б-а-м-л-е-л-а!!! А-й-л-я-ў-ю! Я не ўвайду да сябе!!! Г-у-р-р-р-р-а-а-а! — закрычаў Аляві, і тут жа сціх! Зразумеў: здарылася нешта нечаканае! Пералякаўся сваёй радасці! Няўжо яшчэ яна будзе з ім?.. — Глянь, Хельсінкі, бачыш ключы? Гэта, вось, кольца трэба было мне п-а-в-е-с-і-ц-ь! Гэта знак: не ўсе вярнуліся: варот не закрывайце на ўсе штабы! А мы выйшлі тады гурбой, вароты насцеж, ніхто нічога не вешаў — і я не, забылася: кольцы не вісяць, думае садоўнік — усе дома спяць!.. Вось табе і — «дома»!..

Аляві абняў яе... — Не здаецца табе, што Гасподзь хоча, каб мы былі я-ш-ч-э р-а-з-а-м? Нічога ж так проста не бывае!.. Ладна-няладна, давай да маіх італьянцаў; я, праўда, ужо з імі развітаўся, але разбудзім!.. — Аляві, даражэнькі, ты думаеш я з-а-с-н-у?.. Маеш рацыю, с-у-дзь-б-а відавочна!.. Ідзем, куды-небудзь. Цішэй будзьма!.. Давай твой світар, Ай-Ляў-Ю, ноч святая! Холадна!

— Bonjour, Monsieur Olavi, que desirez-vous? — Я зноў есці хачу, Даніэль, па-воўчы, пайшлі на наш Giardinelli Reali!.. — Аляві, ты ў мяне разумнік! Б-я-ж-ы-м! — яны елі і гаварылі, гаварылі і елі!.. Аляві сказаў:

— Давай, вось вапарэта, сіганем на Лідо, як думаеш? Востраў невялікі, усяго дванаццаць кіламетраў даўжыні, якраз на наш праменад, там усход сонца сустрэнем, а?..

(працяг будзе)

ISSN 0546-1960